*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
5
САКАВІКА
1993 г.
№ 10 (3680)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ
3 рублі





**Дыпламант міжнароднага конкурсу Ганна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

Фота У. ПАНАДЫ.

# ЧЫМ ЗДЗІЎЛЯЦЬ БУДЗЕМ?

Адраджэнцы. Чытаючы пра іх у крыніцах гістарычнага мінулага, мы бачым у гэтых постацях узлёты духу нацыі. І міжволі ахоплівае душэўная трапятлівасць, калі прычыняешся да іхняй спадчыны. Глыбей знаёмячыся з эпохай, асяроддзем, пачынаеш разумець, што жыццё гэтых людзей было звычайнае, хутчэй нават будзённае — са сваімі складанасцямі ды клопатамі. Арэол узнікаў потым, часцей пасля смерці. Згадайма жыццёвы шлях Скарыны, філаматаў, нашаніўцаў...

У старажытнасці казалі: «Барані Божа жыць у «цікавы» час». На працягу многіх і многіх дзесяцігоддзяў беларусы ж і жылі ў «цікавы» час. Вось і зараз ён надышоў. Ды толькі такі час і нараджае асобаў чуйных, якія вызначаюць маральны пульс эпохі. І, верагодна, наступнікі нашы знойдуць і ў нашай сучаснасці, а для іх — у мінуўшчыне, такіх асобаў. Жывуць яны сярод нас, нашы сучаснікі, ходзяць па адных з намі вуліцах, пакутуюць у чэргах і... пераўвасабляюцца ў творчасці.

Праз творчасць канкрэтных людзей спазнаём мы гісторыю культуры народа. Пра аднаго з сучаснікаў, шаноўны чытач, гэтыя нататкі...

(Працяг на стар. 10—11).

# Касцёл св. Тройцы— вернікам

(Пачатак на стар. 3).

Гэтая сітуацыя лішні раз пераконвае, наколькі неабходная нармалізацыя маёмасных пытанняў, у дадзеным выпадку пытанне ўласнасці на прыкасцельную тэрыторыю. Толькі вырашыўшы яго, мы будзем мець магчымасць годна бараніць свае правы ў падобных сітуацыях і ў будучым. Тым больш, парафіі крайне неабходна для нармальнага канфесійнага жыцця мець пры касцёле *плябанію*, нядзельную школку для катэхізацыі дзетак, памяшканні парафіяльнае рады, бібліятэку.

Рэлігійнае жыццё — гэта працэс у часе і прасторы. Забяспечыць яго нармальнае натуральнае функцыянаванне — наша сумесная задача.

Яшчэ невядома, каго ў суседзі прапануе касцёлу гарвыканкам з Галоўмінскархітэктурай у будучым, распарадзіўшыся па-свойму прыкасцельнай тэрыторыяй былых каталіцкіх могілак на Залатой Горцы.

Мы ўпэўненыя, што толькі вырашыўшы ўсе гэтыя пытанні, можна было б уратаваць ад далейшага разбурэння і аднавіць той хрысціянскі культурны асяродак, які фармаваўся ў гэтым маляўнічым куточку Менска стагоддзямі, захаваўшы разам з тым маштаб забудовы і функцыянальную еднасць азначанай тэрыторыі.

На сённяшні дзень у Менску шмат чаго ўжо няма, у тым ліку і некалькіх велічэзных касцёлаў, якія былі часткова бязлітасна знішчаны, часткова ў выніку гвалту і палітычнай кан'юнктуры ў розныя часы перададзены іншым гаспадарам. Мы не просім чужога, нам не трэба ніводзін адміністрацыйны будынак у горадзе.

Мы просім вярнуць народу Беларусі, вернікам-каталікам забранае ў іх гвалтам, перапрафіляванае памяшканне.

Гэта не той выпадак, калі на былую царкоўную маёмасць прэтэндуе некалькі канфесій, таму вяртанне касцёла св. Тройцы на Залатой Горцы не прывядзе ні да канфрантацыі паміж рознымі канфесіямі, ні да канфрантацыі іншых канфесій з дзяржавай.

Мы разумеем, што ў выпадку перадачы касцёла вернікам чыноўнікам ад музычнай культуры пойдзецца ўзгадняць свае пазіцыі з намі, улічваць адвечны распарадак святой імшы, а не правіць у касцёле баль, выдзеліўшы для беларускіх набажэнстваў дзве гадзіны з раніцы.

Ды ніколі нарабаванае не прыносіць карысці, якімі б высокімі мэтамі, у дадзеным выпадку нібыта культурніцкімі, такі гвалт не тлумачыўся. Тым больш, і гэта не сакрэт, што ўся еўрапейская культура, у тым ліку і беларуская, будавана цалкам на хрысціянскай культурнай традыцыі.

Дзеля аднаўлення элементарнае чалавечае справядлівасці, дзеля ўлагоджвання сацыяльнага напружання сярод каталіцкага насельніцтва Менска і міжнароднай грамадскасці просім разгледзець нашае пытанне пра перадачу будынка касцёла і прыкасцельнае тэрыторыі з балансу філармоніі на баланс нашае парафіі.

**М. САПЕЛЬ**, ксёндз-пробашч; **А. БЯЛЕЦКІ**, прэзэс касцёла; **У. ПАПРУГА**, сябра касцельнай рады; **Ф. ЯНУШКЕВІЧ**, старшыня Беларускай каталіцкай грамады.

# ПАТРЫЯТЫЗМ—ГАЛОЎНЫ СТОЎП

З таго часу (26 студзеня 1990 года), як быў прыняты Закон «Аб мовах у Беларускай ССР», на сваёй дзяржаўнай працы я карыстаюся нашай дзяржаўнай — *роднай беларускай мовай*. У такой галіне, як медыцына, дзе маса іншамоўнай інфармацыі, па-беларуску афармляю ўсю афіцыйную дакументацыю, пішу артыкулы, размаўляю з супрацоўнікамі, калегамі, праводжу канферэнцыі і г. д. У маленстве я пяць гадоў вучыўся на польскай мове, будучы беларусам, толькі тры гады — на сваёй *роднай беларускай* мове і сорак пяць гадоў сам вучыўся і вучыў іншых—на рускай мове, трыццаць пяць з іх — у Мінскім медыцынскім інстытуце. Перайсці на карыстанне дзяржаўнай мовай для мяне не было ніякай асаблівай праблемы і ніякага псіхалагічнага бар'ера мне пераадольваць не трэба было, бо я беларус і ў сваім *уласным доме* хацеў гаварыць на роднай мове. Праўда, адбылося гэта пазнавата, на шэсцьдзесят трэцім годзе жыцця.

Мой жыццёвы прынцып такі — ва ўсялякай справе трэба менш гаварыць, а больш рабіць. Не зважаючы асабіста на кпіны, злосць, здзекі з мяне і маёй мовы, я рабіў сваю справу. Мае крыўдзіцелі проста псіхалагічна не хацелі змірыцца, што беларус, нарэшце, загаварыў па-свойму.

Як вядома, і на нашу мову, і культуру, і дзяржаўнасць, і войска, і на ўсё беларускае часта накідваюцца рознага роду «інтэрнацыяналісты». Не так даўно ў «Советской Белоруссии» з'явіўся артыкул — адкрыты ліст Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь: «Семь раз отмерьте...» акадэмікаў Расійскай акадэміі навук В. Капцюга, А. Трафімука і чл.-кар. той жа акадэміі навук В. Пармона — беларусаў па паходжанні. Вось што шаноўныя акадэмікі пішуць: «Поверьте, добровольное принятие единого для огромной страны русского языка в науке и технике было благом для всех союзных республик, а не великодержавной прихотью России». Аб «добровольном принятии русского языка» мы ўжо шмат разоў чулі... А як абыходзяцца сваёй мовай вучоныя іншых краін, напрыклад, Фінляндыі, Швецыі, Швейцарыі, Даніі і г. д., дзе няма ні англійскай, ні рускай дзяржаўнай мовы? Навука ж там на вельмі высокім узроўні. Нам таксама не трэба, каб руская мова была ў нас другой дзяржаўнай мовай дзеля «спасения» беларускай навукі.

Незалежнасць наша нялёгка дасталася, за яе лепшыя сыны Бацькаўшчыны змагаліся ва ўсе часы. Таксама і я не мог маўчаць, усё набалелае выклаў у сваіх пісьмах у ЦК КПСС, КПБ у 1979 — 1982 гадах, у «Сустрэчных закліках да ЦК КПСС». Усяго іх было 99 — столькі, колькі і заклікаў ЦК КПСС да савецкага народа. Вось некаторыя з маіх сустрэчных заклікаў: «Далоў афганскую авантуру, а вінаватых за яе пад суд! Кастрычніцкая рэвалюцыя нарадзіла новыя формы эксплуатацыі чалавека чалавекам! Камунізм, як і вечны рухавік, пабудаваць немагчыма! Няхай намі не кіруе састарэлая камуністычная хунта! Няхай выбары ў Саветы будуць дэмакратычнымі! Наша свабода слова — хваліць КПСС і ўрад тады, калі яны гэтага не заслугоўваюць. Далоў цэнзуру! Няхай будуць свабодны выезд з СССР і ўезд у яго. Сумленнаму чалавеку жыць цяжка! Далоў паказуху, ураўнілаўку, прыпіскі, прывілеі, незаслужаныя ўзнагароды, прэміі і званні! На дэманстрацыю па загаду сумлення і сэрца, а не па спіску і прымусу! Няхай у Беларусі не закрываюцца беларускія школы! Няхай у спецыяльных навучальных установах навучанне вядзецца на роднай беларускай мове! Саюз непарушны рэспублік свабодных з'яднала навекі вялікая Русь... бальшавіцкімі штыкамі! Краіну давялі да таго, што зямлю скора не будзе каму даваць! Не ваюй з тым, у каго купляеш хлеб! Няхай ізноў напоўняцца галасамі дзяцей і моладзі нашы вёскі! КПСС кішыць кар'ерыстамі, прайдзісветамі, жулікамі, якія ўладкаваліся ў партыю па блату! Адновім нашы гістарычныя помнікі і святыні, чалавечую мараль, гожасць, сумленнасць! Навучым моладзь шчыра працаваць! Няхай члены КПСС і ўрада аб'ядноўваюцца ў кааператыў і самі сабе пабудуюць дачы за ўласны кошт! Далоў смяротную кару! Медыцынскія работнікі, памрыце, *але хабар з хворага не бярыце*! Няхай жыве самая перадавая і самая бедная ў свеце савецкая інтэлігенцыя! Сардэчнае прывітанне гаротным савецкім жанчынам, на плячах якіх сям'я, служба, план, а часта і п'яны Іван! Няхай не будзе цяжкіх і малааплачваемых «жаночых» прафесій!» і г. д.

Усе мае дысідэнцкія матэрыялы *аказаліся* ў Мінскім абласным КДБ, куды забралі і аўтара, дзе мяне абвінавацілі ў «паклёпе на Савецкі Саюз». Пад дыктоўку мяне прымусілі пакаяцца, што больш «клеветать» не буду, і ў гэтым узялі распіску. А потым я «добровольно» прабыў паўтара месяца ў псіхушцы, «добровольно» пакінуў пасаду загадчыка кафедры ў Мінскім медыцынскім інстытуце, дзе адвучыўся і адпрацаваў 35 гадоў і прайшоў шлях ад студэнта да прафесара. «Добровольно» пацярпела ўся мая сям'я. Рэпрэсіўны апарат КПСС так працаваў, каб усё выглядала «добровольно», «обоснованно», «законно». Толькі выхад з партыі «добровольно» не афармлялі, а «выключалі». І мяне выключылі «за паклёп на Савецкі Саюз», хаця заяву ў красавіку 1983 года падаў з просьбай выключыць як «вар'ята» (я тады быў у псіхушцы).

У псіхушках пабывалі самыя шкодныя для КПСС дысідэнты. Наогул прымяненне псіхіятрыі ў палітычных і карных мэтах з часоў Брэжнева стала ў Савецкім Саюзе даволі распаўсюджанай з'явай, што выклікала пратэст ва ўсім свеце. 29 чэрвеня 1990 года пастановай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР была абрана Часовая камісія ВС БССР па расследванні фактаў выкарыстання псіхіятрыі ў палітычных і рэпрэсіўных мэтах з 12 чалавек, пад старшынствам народнага дэпутата РБ У. Заблоцкага. Гэтай высокай камісіі паступіла ад грамадзян РБ *больш за 150 скаргаў...*

Амаль дзесяць гадоў я ўжо працую ў іншым месцы. За гэты час распаўся Саюз, Беларусь стала суверэннай дзяржавай, у якой, на жаль, так мала зроблена, для адраджэння беларускай нацыі, хаця зрухі ёсць. Ужо і са мной некаторыя гавораць па-беларуску. Да маёй мовы людзі прывыклі ўжо, зніклі кпіны і хіхіканні, здзеклівыя рэплікі. Але скалечаныя за дзесяцігоддзі псеўдаінтэрнацыяналізмам нацыянальныя беларускія моладзь, інтэлігенцыя, вучоныя і невучоныя ў большасці сваёй ніяк не могуць набрацца смеласці, каб загаварыць на сваёй роднай мове. Лічу, што галоўны стоўп нашай беларускай дзяржаўнасці і нашага суверэнітэту — гэта нацыянальны патрыятызм, і тут мы, беларусы, павінны браць прыклад з нашых, бліжэйшых і дальніх суседзяў.

**У. МІРОНЧЫК.**

г. Мінск.

# МОВА—БОЛЬШ ЧЫМ МОВА?

Як магло здарыцца, што родная мова карэннага насельніцтва, *якое складае пераважную* большасць агульнага ліку насельніцтва суверэннай дзяржавы, стала папярок горла тым, хто сюды па розных абставінах прыехаў, нядрэнна ўладкаваўся і ў знак «удзячнасці» стаў у ваяўнічую позу да культуры, звычаяў, гісторыі і мовы гэтага народа? Самі таго не разумеючы, яны са скуры лезуць, каб *паказаць* сябе ва ўсёй «прывабнасці» людзей, якім невядомы самыя элементарныя правілы чалавечых паводзін. І хто, як не яны самі, вінаваты, калі затым скардзяцца на дрэнныя адносіны да так званых «русскоязычных»? Ды і слова якое прыдумалі — «русскоязычные»!

На самай справе такіх няма — ёсць беларусы, украінцы, грузіны, латышы, літоўцы, палякі, якія размаўляюць па-беларуску, па-ўкраінску, па-грузінску, па-латышску, па-літоўску, па-польску, па-руску. Гэта значыць, на сваёй мове або на іншай мове. Нашы ж «русскоязычные», гадамі і дзесяцігоддзямі жывучы сярод іншых народаў, не толькі не ведаюць мовы гэтых народаў, але і агрэсіўна выступаюць супраць яе.

Непавага і трэціраванне нацыянальнай мовы і культуры адначасова ёсць самая вялікая непавага і да сваёй уласнай мовы, гісторыі і культуры, як гэта ні парадаксальна. Чалавек, які любіць свой народ, ведае, што яго народ не ёсць абстракт, які раптоўна з'явіўся на голым месцы, што ён мае працяглы шлях фарміравання, станаўлення і развіцця і тысячамі *ніцяў звязаны на сваім* гістарычным шляху з іншымі этнасамі. Але калі чалавек не ведае і не хоча гэтага ведаць, такое можна растлумачыць тым, што ён не паважае не толькі іншы народ, а перш за ўсё свой.

**Мне ўспамінаецца вёска Зубрэвічы, што на Аршаншчыне, канца 40-ых гадоў. Там жылі дзве жанчыны—адна карэнная масквічка, другая—тыповая латышка. Масквічку называлі «Дзіскаціха», а латышку «Аўхіміха». Гэта, адпаведна, ад мянушкі і імя іх мужчынскіх палавін. Адзін з іх служыў у царскай арміі ў Маскве і прывык там к новаму слову «дескать», і да месца, і недарэчы ўжываў гэта незвычайнае для мясцовага вуха слова. І вясковыя жыхары, здольныя на жарты, відазмянілі гэтае рускае слова і празвалі чалавека «Дзіскáць», а жонку—«Дзіскаціха». Латышку *празвалі па імені яе мужа «Аўхіміха»*. Цікава, што маладая жанчына пакінула Маскву і паехала з мужам у беларускую вёску, пражыла тут сваё жыццё, нарадзіла дзяцей. Тое ж было і з латышкай. Яны прыехалі ў Зубрэвічы ў пачатку гэтага стагоддзя, а ў канцы саракавых гадоў абедзвюх іх, тым больш—іх дзяцей, ужо нічым нельга было адрозніць ад мясцовых жыхароў. Калі б суседзі не расказалі пра іх «адысею», я ніяк бы ўведаць гэтага не змог, хаця абедзвюх добра ведаў і размаўляў з імі. Што было б, каб і масквічка, і латышка сталі ў свой час бегаць па інстанцыях і патрабаваць, каб з імі размаўлялі на рускай ці латышскай мовах?**

Няхай ніхто не падумае, што гэты ўспамін з'яўляецца намёкам на тое, каб іншамоўныя народнасці размаўлялі па-беларуску ці адракліся ад сваёй мовы. Няхай размаўляюць, як ім хочацца, гэта іхняе права. Але на гэтай аснове зусім беспадстаўна патрабаваць кожнаму *сваю мову зрабіць* дзяржаўнай: гэта сапраўдны абсурд. У нас ужо заяўляюцца прэтэндэнты на пасаду прэзідэнта дзяржавы — паны з-за акіяна тыпу А. Прушынскага, грамадзяніна Канады і Польшчы, жыхара горада Таронта, «гарачага патрыёта рэспублікі Беларусь», як піша «Народная газета», якія, на жаль, не можа *сказаць ніводнага слова па-беларуску*.

Палітыка дзяржаўнасці нацыянальнай мовы павінна абапірацца на рад навукова *абгрунтаваных прынцыпаў, галоўны* крытэрый якіх — мова ёсць найважнейшы атрыбут нацыі, выражэнне нацыянальнага характару, гісторыі і культуры. Дзяржава павінна клапаціцца аб стварэнні ўмоў для нармальнага функцыянавання дзяржаўнай мовы. Суверэнітэт нацыі не можа быць без суверэнітэту мовы. Мова валодае той *асаблівасцю, што яна фарміруе* тып чалавека, дакладней кажучы, нацыянальны тып. А калі тып разбураецца, то гэта ўжо не тып чалавека, а тып хворай істоты. Справа ў тым, што на працягу тысячагадовага развіцця грамадства, жыццядзейнасці людзей разам з асваеннем імі акружаючага асяроддзя фарміраваліся іх звычкі і тып чалавека. І гэта было настолькі глыбока, што знайшло сваё выражэнне нават у саставе крыві, а таксама стала праяўляцца ў тыпе мыслення, фразеалагічных выразах, якія нават не могуць абсалютна дакладна перакладацца на іншую мову. Як вядома, мысленне ёсць не што іншае, як працэс адлюстравання аб'ектыўнага свету ў свядомасці чалавека, і выражаецца ў канкрэтных словах і фразеалагічных выказваннях, што склаліся за шмат тысячагоддзяў існавання *нацыі*. І таму забарона роднай мовы вядзе і да парушэння гэтага стэрэатыпу мыслення, і тым самым да парушэння цыкла функцыяніравання мыслення, зброю інфармацыйнага біяполя. А гэта ёсць не што іншае, як хвароба. Яна не менш небяспечная, чым, скажам, тыя хваробы, якія могуць узнікнуць ад ужывання ў ежу *такіх прадуктаў*, да якіх чалавечы арганізм не прывык.

**Мова ўзнікла як сродак зносін, сувязі паміж людзьмі. Яна была патрэбна для абмену інфармацыяй з самай ранняй ступені развіцця чалавечага грамадства, спрыяла развіццю мыслення. Не ў меншай ступені яна неабходна і цяпер, на новым этапе развіцця. Для нармальнага яе развіцця неабходна паклапаціцца аб тым, каб уключыць *пытанні мовы ў кантэкст інфарматыкі*, распрацоўваць гэтыя пытанні з пазіцыі агульнай філасофска-інфармацыйнай канцэпцыі. Адной філалогіі з гэтым справіцца немагчыма па той прычыне, што мова перш за ўсё інфармацыя і, як інфармацыя, грунтуецца на філасофскім падыходзе.**

Мяркую, што пытаннямі далейшага развіцця беларускай філалогіі, мовазнаўства, фразеалогіі, дыялекталогіі ў кантэксце філалагічнай інфарматыкі павінны займацца не толькі філолагі, але і філосафы. Што, калі стварыць пры Інстытуце *філасофіі Беларускай акадэміі* навук аддзел філалагічнай інфарматыкі, які б займаўся параўнальным мовазнаўствам і распрацоўваў тэарэтычныя пытанні развіцця мовы?

**А. П. КРУЦІКАЎ,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

**З ПОШТЫ АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ**

## Анкета «ЛіМа»




**Паказаць асобу і творчасць Максіма Гарэцкага з розных ракурсаў, ва ўспрыманні людзей розных пакаленняў, светапоглядаў, накірункаў дзейнасці — такой была мэта аддзела крытыкі і бібліяграфіі, які ў сваю чаргу далучыўся да юбілейных святкаванняў. Са студзеня г. г. на пытанні анкеты адказалі В. Адамчык, Л. Мірачыцкі, Г. Далідовіч, І. Жук, У. Арлоў, Э. Зайкоўскі, У. Сцяпан, А. Федарэнка, Т. Гаробчанка, У. Казбярук, В. Герасімаў, З. Прыгодзіч, П. Васючэнка, І. Шамякін, С. Панізнік, Б. Сачанка, А. Барадзіна, В. Мазынскі, І. Чыгрын. Эсэ У. Рубанава і нататкі члена-карэспандэнта АН Беларусі М. Мушынскага будуць, на наш погляд, своеасаблівым падрахункам анкеты. Дзякуем усім, хто адгукнуўся.**

# ПРАРОК

Пісьменнік — перадусім гэта слова, чараванне над словам і малітва яму. Гэта ад Бога, усё астатняе — ад жыцця. Я думаў, такія словы, як **ёдка** (холадна), **мост** (падлога), **уваўрэў** (спацеў), **султыжка** (костка), **супарат** (упарты чалавек), **лантух** (страўнік) ды многія іншыя не выходзяць за ваколіцу маёй вёскі. Аж не. І гэта было маё першае дзіўленне Гарэцкім, цёпла прыхарошанае гонарам зямляцтва. З таго часу мінула, нямнога-нямала — роўна дваццаць гадоў, я тады быў студэнтам Белдзяржуніверсітэта, але ж толькі цяпер я свядома разумею: позна! Не па сваёй віне позна — і не ўсе! — прыходзілі да нас, беларускіх дзяцей, святыя імёны народа, якому вызначана зусім не сціплае месца на цеснай карце нацый, а таксама гісторыя, што стаіць за гэтымі імёнамі. Паважаць пачынаеш (вядома, са знакам мінус) служак утапічнай ідэалогіі, якім хапала розуму цяміць, што прысутнасць вялікіх продкаў кансалідуе нацыю, з'ядноўвае дух і робіць яго непераможным, непадатлівым для авантурных, гібельных мэтаў.

Пра ЯГО можна гаварыць самымі высокімі эпітэтамі (у тыя часы і цяпер) без усякай натугі, як гэта часта робяць нашыя сучаснікі ў адносінах да свежаспечаных «класікаў», падвязваючы іх, бы кароў у галадуху вяроўкамі, няшчыра-сяброўскімі пахваламі.

Канечне, пра ўсіх, хто піша (творыць), можна сказаць прыблізна адно (асабліва апусціўшы ўзровень мастацкасці): змаганне дабра са злом, гуманізм. І толькі творцаў, найбліжэйшых да міласці Боскай, вызначае **рэдкае** — дар прарока.

Чытаючы за 50 ці 70 гадоў пра штосьці (прарочае) і не падумаеш, што гэта позірк у далёкую будучыню. І толькі наступнікам становіцца зразумелым, куды закідвалася прадбачанне.

Гляджу гэтымі восеньска-зімовымі днямі, калі пішу, на шэрыя, панылыя вуліцы Мінска і разважаю: ці быў Максім Гарэцкі прарокам?

Маленькае адступленне. Апошнім часам я, знаёмячыся з матэрыяламі розных судзілішчаў, рэпрэсій, не магу без гневу думаць: хто даў права палітыкам ставіць сябе вышэй творцы? Хто? Творца ад Бога, ад неба, ад зямлі, з духу народнага... Ён застанецца **адным** словам, мазком, песняю — і гэта **будзе**. А палітык? Сёння князь — заўтра гразь. Сёння «самы-самы», заўтра такія ж інтрыганы звергнулі, і ён — ніхто. Ды каб жа ніхто! Крывавы тыран, дыктатар, валюнтарыст, авантурыст... (карацей, «празорлівасць» заднім чыслом у падшыўках газет). Каму з палітыкаў паслякастрычніцкай эпохі народ удзячны? (Дасюль святым лічыўся толькі Ленін...). А колькі... колькі! — светлых галоў пакацілася ў небыццё за гэты час?

І ў гэтым праведным гневе я рызыкнуў уявіць, што народ можа абысціся без усякіх палітыкаў, дзяржаўных вешчуноў, «праграмнікаў», ідэйных натхняльнікаў-абяцальнікаў, у кожным разе, яны не павінны быць на першым плане. А вось без слова... Без слова, братцы, дудкі! А тыя, хто працуе са словам, патрэбны ці не?

І раптам мяне секанула як маланкаю прачытанае ў «Меланхоліі» Гарэцкага: «Я думаю, што ў нашым вызваленчым руху **настаўнікі і літаратары яшчэ доўга** (выдзелена мною.—**У. Р.**) будуць больш патрэбны, чым каморнікі і аграномы».

Гэтае ДОЎГА дацягнулася да нас і хто скажа, колькі яму яшчэ цягнуцца...

І тут жа, у «Меланхоліі», Лявона Задуму агортвае роспач, «што беларускае адраджэнне не мае пад сабою ніякага грунту», што ў кніжным кіёску «было шмат усякіх кніжак, часопісаў і газет, але беларускага нічога не было».

Хіба не пра наш час, хіба не актуальна праз сем дзесяткаў гадоў пасля напісання? Вядома ж, Максім Гарэцкі быў ПРАРОКАМ. У тым і соль, што, пішучы ў пэўным часе, геній як бы штурхае розум грамадства ўперад, дапамагае фарміравацца свядомасці наступных пакаленняў.

Сёння можна (і лёгка) казаць, што М. Гарэцкі — вялікі, наш нацыянальны геній, незаменная ахвяра сталінскага інтэлектакосу. Можа, ён не так значыць для іншых народаў, можа, ягоная творчасць для іх не класіка, а для нас, нашай літаратуры — вяршыня. Як і наадварот: скажам, для Японіі — добра, а для нас не вельмі, хоць японцу зусім не пашкодзіць ведаць беларускую літаратуру, а беларусу — японскую.

Цяпер патрэба ў Гарэцкім як ніколі вырасла. Прысутнасць ягоная паказвае ўсякім скептыкам-схімнікам, якія думаюць, быццам беларус няздольны на высокі ўзлёт, што мы — нацыя па ўсіх правілах. Ёсць адзін (а не адзін жа!) — шукаецца, нараджаецца і другі, ёсць два — задумваецца ў наступнай масе люду трэці... А ў складаных варунках нібыта працэс гэты яшчэ скарачаецца. Гарэцкі — наш набат: МОЖАМ! І — як надзея, як шчасце — адна парадаксальная асаблівасць: вялікая постаць з цягам часу вырастае, малая — мізарнее. Гэтак жа як голас творчасці: альбо мацнее, альбо слабее.

Я нейкі час думаў, важней у прозе рэаліі; цяпер жа, паводле Гарэцкага, зразумеў, што правільней будзе лічыць: важней адчуванні на грунце гэтых рэалій. Гэта як агонь над дровамі — нам важней агонь. І вось чаму. Рэаліі прападаюць, адыходзяць, іх замяняюць новыя, а энергія адчуванняў пайшла, яна застаецца ў космасе, і ўжо адтуль уплывае на нас, нашыя сённяшнія адчуванні (гэта цяпер даказана).

Каб атрымаць эстэтычна-мастацкую асалоду, мне не трэба чытаць Гарэцкага цалкам. Дастаткова некалькі старонак, паўкнігі (у любым месцы). Індывідуальнасць вельмі хутка дзейнічае, насычае імгненна, як высакаякасная ежа калорыямі, і смак ейны выразна-непаўторны ў малой долі.

Пасля Гарэцкага якісьці час не хочацца чытаць нашых пісьменнікаў. Я доўга не мог зразумець — чаму, ёсць жа сярод іх паважаныя, таленавітыя. Адказ вынайшаўся даволі просты (усё простае, калі праясніцца): ні ў кога няма такога яскравага малюнка (зрэзу) часу. Прынамсі, для маіх вачэй. Прызнаюся, адчуваю пэўную няёмкасць, пішучы пра класіка: несуразмерныя велічыні. Было б куды прасцей, калі б чалавека бачыў: тады права на фіксацыю якіхсьці дэталей, падрабязнасцей, штрышкоў мае кожны. І яны самакаштоўныя, бо для нашчадкаў, для якіх іншыя ўжо вызначылі цану пісьменніка, цікавае і дарагое УСЁ, бо кожны, хоча таго альбо не хоча, прымервае сябе на вышэйшага.

Ніякі юбілейны заказ не прымусіў бы мяне публічна выказваць свае адносіны да Гарэцкага, калі б яны не выявіліся, хай ледзь-ледзь, несвядома яшчэ (што найкаштоўней у дадзеным выпадку), **раней:** адчуванне чагосьці чароўнага, магічнага, якое табе ТРЭБА.

Колькісь рысачак з таго, што не прывязалася да гэтай нататкі, але было:

1. Чытаеш кепскую (слабую) кнігу — ніякіх думак і ніякага натхнення; добрую (Гарэцкага) — хочацца пісаць сваё.

2. Кепскае ў нас тое, што пісьменнік намі ацэньваецца ў залежнасці ад таго, як ён ставіцца да цябе ў чыста жыццёвых абставінах.

3. Усё, што сніцца, дзесьці існуе (Гарэцкі вялікае значэнне надаваў загадцы сноў).

4. Бальшыня з нашых адраджэнцаў імкнецца стаць фігураю, а не ўнесці ўклад. У Гарэцкага, мне здаецца, было наадварот.

5. Гартаю слоўнікі (сучасныя) і недаўмяваю, чаму няма ў іх многіх-многіх слоў Гарэцкага — жывых, народных, пабеларуску смакавітых? Во дбалі, во служылі беларускасці нашыя карыфеі! Дзякуй Богу, ёсць Творы.

І апошняе. Бадай самае асабістае, у чым быццам і нясціпла прызнавацца (але гэтага вымагаюць канкрэтныя пытанні). Нейк зайшоў у выдавецтва празаік своеасаблівага духоўнага бачання Андрэй Федарэнка і нечакана сказаў мне, што прачытаў маё даўняе-даўняе (надрукавана было ў «Вожыку» пасля шматгадовага вылежвання) апавяданнейка «Гарадскі» — пра тое, як вясковы хлопец выракаецца матчынай мовы,— і яно яму нагадала Гарэцкага. Скуль накруцілася гэтая думка Андрэя, шчыра кажучы, не ведаю, урэшце ёсць рэчы, зразумелыя толькі аднаму. Яна мне, вядома, лесціць. Я толькі пэўна ўсведамляю, што ніколі не дасягну жывасці пісьма Гарэцкага, натуральных блёсткаў на словах, нейкага вясенне-травянога разліву ягонай душы па тэксце.

Але — кожнаму свая задуманасць, кожны сваю «знаходзіць у пісанні салодкасць» (Гарэцкі).

**Уладзіслаў РУБАНАЎ.**

# АДДАМО НАЛЕЖНАЕ І РЭДАКТАРАМ

Абставіны майго знаёмства з прозай (па сутнасці — з творчасцю) Максіма Гарэцкага цікавыя тым, што прыадчыняюць малавядомую старонку гісторыі рэабілітацыі светлага імя пісьменніка-грамадзяніна, які так багата зрабіў для развіцця нацыянальнай культуры. Гэтая старонка — даволі драматычная, зрэшты, як і ўвесь жыццёвы шлях мастака-пакутніка... У канцы 50-х гадоў Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук распачаў працу над калектыўнай «Гісторыяй беларускай літаратуры». Гэта была пара т. зв. хрушчоўскай адлігі, калі адкрылася нечаканая магчымасць вярнуць чытачу імёны многіх выдатных мастакоў слова, бессаромна абылганых, зганьбаваных паклёпнікамі, даносчыкамі ў гады масавых палітычных рэпрэсій. Аднак надзеі сумленных людзей на трывалае ўсталяванне сапраўднага дэмакратызму, палітычных, грамадзянскіх свабод, надзеі на хуткае адраджэнне нацыянальнай культуры не спраўджваліся. Абаронцы таталітарнага рэжыму не хацелі здаваць сваіх пазіцый. Яны рабілі ўсё магчымае, каб перашкодзіць духоўнаму абнаўленню грамадства. І хоць у новую «Гісторыю беларускай літаратуры» былі ўведзены асобныя манаграфічныя раздзелы пра Ц. Гартнага, М. Чарота, У. Дубоўку, М. Зарэцкага, П. Галавача, аднак для разгляду творчасці Максіма Гарэцкага месца там не знайшлося. Як бачым, на пачатку 60-х гадоў яшчэ дастаткова ўплывовымі былі тыя, хто па-ранейшаму, як і ў 30—50-я гады, глядзеў на аўтара «Руні» і «Дзвюх душаў», як на пісьменніка небяспечнага для тагачаснай палітычнай сістэмы, а таму і няварта ўвагі ні чытачоў, ні даследчыкаў літаратуры. Лёс М. Гарэцкага ў новай «Гісторыі» — слабое суцяшэнне! — падзялілі А. Гарун, Ф. Аляхновіч, А. Мрый, Л. Калюга, Я. Нёманскі і іншыя паэты, празаікі, драматургі. Іх творы або зусім ігнараваліся, або ішлі ў агульным пераліку без заглыбленага аналізу.

Сёння кожны з нас упэўнена скажа, што падобнае стаўленне да выдатных майстроў — недаравальны ўчынак тых, хто зацвярджаў план-праспект «Гісторыі літаратуры», хто прызначаў аўтараў-выканаўцаў. Дык гэта сёння! А ў той час грамадска-палітычная сітуацыя ў краіне і псіхалагічны клімат у акадэмічнай установе былі інакшымі... І вось аднойчы да мяне, маладога навукоўца інстытута, звярнуўся тагачасны загадчык сектара дакастрычніцкай літаратуры і тэксталогіі Ю. С. Пшыркоў і не загадаў, а папрасіў напісаць «у пазапланавым парадку» раздзел пра М. Гарэцкага: мы паспрабуем змясціць творчы партрэт пісьменніка хоць бы ў дарэвалюцыйным томе, бо першы том «Гісторыі беларускай савецкай літаратуры» (1917—1941) ужо выйшаў з друку. Я хацеў бы, каб пра нашу размову, сказаў Юльян Сяргеевіч, да пары да часу ніхто не ведаў. Так будзе лепей...

Зразумела. Я не мог адмовіць свайму настаўніку, а ягоную просьбу ўзяўся выконваць з радасцю, і сёння маю маральнае права сказаць, што ганаруся даверам гэтага па-сялянску мудрага чалавека, які адчуваў асабістую адказнасць вучонага перад грамадствам і імкнуўся гэтае ўсведамленне прышчапіць сваім вучням. Ю. Пшыркоў разумеў: пакуль у «Гісторыі беларускай літаратуры» не будзе асобнага раздзела пра М. Гарэцкага, грамадзянская рэабілітацыя пісьменніка застанецца фармальным актам, а творы пісьменніка не трапяць ні ў праграму філалагічных факультэтаў, ні ў школьную праграму. Вось так, дзякуючы Юльяну Пшыркову і нечаканаму збегу акалічнасцяў, і адбылося маё сур'ёзнае знаёмства з мастацкай прозай Максіма Гарэцкага, а фактычна пачалося маё глыбокае захапленне творчасцю незвычайнага майстра слова, якое працягваецца і сёння.

З якімі цяжкасцямі праходзіў падпольна напісаны раздзел рэдактуры і што засталося ад першапачатковага варыянта — тэма асобнай размовы. Пры выпадку я раскажу пра гэта падрабязней, тым болей, што тэкст з рэдактарскімі (чытай: цэнзурнымі) праўкамі, кюпюрамі я захоўваю як каштоўны дакумент часу. Абмяжуюся тут вытрымкай з індывідуальнай справаздачы за 1968 год, на якую я нядаўна натрапіў, перабіраючы старыя паперы: «Апрача працы над планавай тэмай, на працягу гэтага года я быў заняты завяршэннем манаграфічнага раздзела «Максім Гарэцкі» ў «Гісторыю беларускай дакастрычніцкай літаратуры». Раздзел неаднаразова пераглядаўся і перадрукоўваўся ў сувязі з заўвагамі, зробленымі пры абмеркаванні, а таксама пасля заўваг рэдактараў»... І ўсё ж — аддамо належнае і рэдактарам — раздзел трапіў у другі том «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (1969), што было ўспрынята грамадскасцю як дазвол афіцыйных улад на канчатковае «памілаванне» аднаго з самых паслядоўных «ідэолагаў» нацдэмаўшчыны».

Каб спасцігнуць таямніцу мастацкага ўздзеяння твораў М. Гарэцкага на чытача, спазнаць сакрэт іх паэтычнай даўгавечнасці, патрэбен час, патрэбны талент даследчыка, новыя, нетрадыцыйныя падыходы. У асобе М. Гарэцкага, чалавека і пісьменніка, уражваюць цэласнасць і шматграннасць натуры, мэтанакіраванасць ягонай дзейнасці, мастакоўская прадбачлівасць, здольнасць адчуваць, разумець першачарговыя задачы, якія жыццё ставіла перад нацыянальнай культурай, літаратурай. М. Гарэцкі не заклікаў другіх самаадана служыць роднай зямлі, бацькаўшчыне, народу, ён свядома браў на свае плечы непасільны цяжар працы. Мяне заўсёды здзіўляла сіла яго духу, здольнасць цярпліва зносіць жыццёвыя нягоды і цяжкія выпрабаванні лёсу. У самыя неспрыяльныя часіны жыцця Максім Гарэцкі шукаў паратунку ў творчай дзейнасці. М. Гарэцкі — гэта мастак-падзвіжнік, яго талент — талент дзеяча-адраджэнца, які верыў у свой народ, у шчаслівы лёс нацыі, у яе непазбежны росквіт.

Я не ўяўляю М. Гарэцкага як пісьменніка, які нібыта толькі тое і рабіў, што выказваў ісціну ў апошняй інстанцыі, павучаў сваіх чытачоў. Не , яго праца — гэта настойлівыя, а часта і пакутлівыя пошукі адказу на тыя пытанні, якія нараджала жыццё. І каб зразумець сэнс гэтых пошукаў, патрэбна глыбокае вывучэнне ўсяго, што выйшла з-пад пяра незабыўнага дзядзькі Максіма. **А напісана** ім багата. Проза М. Гарэцкага прыцягвае мяне сваёй натуральнасцю, чысцінёй аўтарскага голасу, высокай маральнасцю, якой прасякнута кожная сюжэтная сітуацыя, кожная мастацкая дэталь. Гэта — мастацтва высокай духоўнай напоўненасці, любові да жыцця і веры ў чалавечае высакародства. Жыватворная крыніца твораў М. Гарэцкага — высокаўсвядомленая нацыянальная ідэя, ідэя Бацькаўшчыны.

**Міхась МУШЫНСКІ.**

**Уладзіслаў РУБАНАЎ**

# ЦЯЖАР НЕБА



**Апавяданне**

сорак капеек за штуку.

Шчыра кажучы, я ўжо ўсур'ёз пачаў задумвацца, чым дапамагчы гэтай няшчаснай старой, можа, уладкаваць у які-небудзь інтэрнат, як нечакана суседзі зніклі. Цішыня аж звінела, была якаясьці прыкрая. Ніхто не ламіўся ў дзверы, не стала крыкаў і лаянкі за сцяною, пакрысе выветрываўся смурод з пад'езда.

А тыдні праз два ў кватэру пераехалі новыя жыхары — яўрэйская сям'я, — якія абмянялі сваю абжытую на гэтую, новую. Іхняе прозвішча заканчвалася на даволі пашыранае ў яўрэяў «сон»; яго звалі Рыгор Маркавіч, яе Соф'я Іосіфаўна, іхняга сына Лёня — мой равеснік, але ўжо лысаваты, з вусамі — для ўяўлення: выліты ленінградскі спявак Аляксандр Разенбаўм. Калі першы варыянт я параўнаў з пеклам, то да гэтага нядрэнна прыдавалася — рай. Людзі ціхія, некрыклівыя, неназойлівыя ні ў словах, ні ў павышанай увазе, акуратна-мадэрновыя ў адзенні. Адным словам, толькі праз паўгода я адчуў сябе шчаслівым і нарэшце ўсвядоміў радасць ад новай кватэры ў выгодным раёне каля славутай Камароўкі.

Нашыя стасункі не выходзілі за рамкі тых, што зазвычай акладаюцца між суседзямі вялікіх перанаселеных гарадоў: «добры дзень» і дробныя просьбы, якіх можа і не быць. Калі я купіў нялюбую мне машыну, Лёня, ужо маючы «колы», ахвотна дзяліўся са мною вадзіцельскім вопытам, які, хоць трэсні, а набываць трэба.

Найбольш, вядома, рахаваліся жанчыны. Я нярэдка чуў, як на кухні жонка расказвала і весела размаўляла з Соф'яй Іосіфаўнай, голас якой поўніўся мацярынскай добразычлівасцю і павучальнасцю (без катэгарычнасці). Шчырасць ейная не магла не дзівіць. Хоць бы тым, у што пасвяціла яна маю жонку, а тая перадала мне. Лічы, з дзявочыны Соф'я Іосіфаўна працавала ў гарадской дзяржаўтаінспекцыі сакратаром-машыністкаю. Начальнікі памочніц сабе абы-якіх не бяруць. І яна мела дзябёлае цела, тугія, спакуслівa паўнаватыя ў лытках ногі. Не саромелася іх дэманстраваць, ведаючы, як нераўнадушныя мужчыны менавіта да гэтай часткі жаночага цела. Калі заходзіла да начальніка, ён казаў з пажадлівай усмешкаю на вуснах: «Штосьці ў вас, Соня, разрэз не на тым месцы...» Яна няспешна папраўляла перад ім спадніцу. «Любілі мяне ў маладосці мужчыны... Цяпер шкадую, што не адказвала ўзаемнасцю», — вывела філасофскае рэзюме.

Іншы раз Соф'я Іосіфаўна прасіла пазваніць, хоць мела свой тэлефон: мусіць,былі ў яе якіясьці сакрэты ад мужчын; я аднойчы міжволі — не затыкаць жа вушы! — падслухаў: яна кансультавалася з уролагам наконт Лёневай сексуальнай паталогіі. Жонка таксама тады-сяды заходзіла да іх. Казала, што ў Соф'і Іосіфаўны ідэальная чысціня (насуперак абывательскай памоўцы, нібыта яўрэі неахайныя людзі): на кухні ажно зіхаціць, металёвыя ракавіны аддраены да бляску, не раўнуючы спражка ў заліхвацкага салдата-дэмбеля; і ўвогуле кожны вугалок, плінтусок, рэечка альбо дзвярная ручка стараннямі Лёні падагнаныя да мікрона, усё быццам вылітае з аднароднага матэрыялу (пасля я сам пераканаўся ў гэтым). Мяне Соф'я Іосіфаўна называла па імені і на «вы» з такою нязвыклай прастатою і паважлівасцю, што гутарка брыняла даверам адразу і непазбежна. І тут міжволі думаеш: колькі ж іншы раз трэба часу, паведацца з людзьмі, каб з імі проста па-чалавечы пагаварыць.

А Рыгор Маркавіч нейк прызнаўся мне, што яму няма жыцця ад жонкі, «загрызае». Але ў голасе я не ўлавіў якойсьці азлобленасці; проста ён, ведаючы натуру жанчын, па-мужчынску салідарызаваўся са мною. Было яму ўжо пад семдзесят; вышэй сярэдняга росту, грузнаваты, з рэдкімі на цямі хвалістымі валасамі, якія вужачкамі звіваліся тады, калі макрэлі;рэч у тым, што Рыгор Маркавіч быў гіпертонік, якойсьці апошняй стадыі, і пачуваўся слабавата, увесь час глытаў крыстапін. Хадзіў ён нетаропка, ледзьве перастаўляючы ногі, акурат нёс на сабе цяжар усяго неба: калі глянуць на яго збоку, не ведаючы, то здаецца, што чалавек альбо стаіць на месцы, альбо зараз рухне. Хвароба выштурхоўвала яго на свежае паветра, на нябліскі стадыён, дзе і я сабе на доўгія гады знайшоў неблагі раніцні мацыён. Рыгор Маркавіч, праўда, не бегаў,ён нібы запаволена плыў сінім воблакам (колер спартыўнага касцюма) над шэрай бетоннай дарожкаю, выгнутай, бы яшчарка, узмахваючы рукамі натужна, плаўна, як стомлены птах крыламі; позірк ягоны не адрываўся ад зямлі, быццам штосьці там шукаў. Маркую, карысці такая фіззарадка яму прыносіла мала, але тое, што ў цяжкахворага чалавека хапала сілы волі хадзіць амаль кожную раніцу на стадыён, клапаціцца іменна гэткім чынам пра здароўе, міжволі нараджала ў маёй душы павагу.

Да нас у кватэру ён заходзіў вельмі рэдка і выключна з адной патрэбаю — пазычыць хлеба: «Покуль прыйдзе з работы Соф'я Іосіфаўна». Толькі гэтак называў ён жонку, пры ўсіх іхніх сварках, якія, падобна, мелі месца, ператварыўшыся проста ў дзіцячую забаву. Злашча Рыгор Маркавіч даваў ім грунт, час ад часу тайком заглядваючы ў чарку. «Мне тады лягчэй», — даверыўся аднаго разу ён мне, і я быў падумаў, што ўся соль толькі ў адным: гарэлка расшырае сасуды, напор крыві слабее, і яму, гіпертоніку, становіцца лягчэй.

І толькі шмат пазней я зразумеў, што палёгка яму магла быць і чыста псіхалагічная. Нон стоп! Раблю круты і нечаканы паварот. Варункі склаліся так, што нашыя добрыя суседзі засабіраліся на «зямлю запаветную». Ініцыятыва была за старэйшай дачкою Еваю, якая жыла асобна, не зусім пуцёва выходзіла два разы замуж; нарэшце ёй засвярбела з'ехаць у Ізраіль і там пашукаць шчасця — штуковіны вельмі прывіднай у с ю д ы. Я адзін раз бачыў яе. Калі флегматычны Лёня падобны больш да бацькі, то Ева да маці, пацвярджаючы тым самым ісціну, што ў такім выпадку дзеці нешчаслівыя (Лёня не завёў сям'і і, падобна, не меў у ёй, праўдзівей, у жанчыне, патрэбы. Нейк нападпітку Рыгор Маркавіч сказаў маёй жонцы: «Ты — жанчына баявая, прывядзі Лёню якуюнебудзь сваю сяброўку. Ёсць шампанскае, ікра, магнітафон, свечкі... Вып'ем, і я тады сыду з дому, няхай ён з ёю застанецца...»). Станістая, з шыракаватымі клубамі, да якіх даставалі чорныя бліскучыя валасы, не гладка прылізаныя, а раскіданыя паветранаспружыністай капою, вялікія эратычныя вусны, што ледзьве не пырскалі сокам набрынялай дзёрзкай сілаю жаноцкасці, маслінавая паволака на вачах — усё гэта стварала даволі прыцягальную рэкламу для мужчынскіх позіркаў. Падчас збораў у далёкі вырай, мусіць, жудасна клопатных, якія, бачыў я, узяла на свае не такія ўжо трывалыя плечы Соф'я Іосіфаўна, нечакана Рыгор Маркавіч паклікаў мяне да сябе: «Хадзі, суседзе, зробім па сто грамаў».

У кватэры ён быў адзін. Канечне, цяпер тут і блізка не ўгадваліся тыя парадак і чысціня, што панавалі раней і маглі служыць узорам для маладых гаспадынь. Мы зайшлі на кухню. Шафак на сценах ужо не было, засталіся цёмныя прамавугольнікі на салатавай фарбе. Сіратліва зырыла з-пад столі бяльмо матавай лямпачкі. Пасярод кухні стаяў вузенькі цыбаты столік з чырвонымі ножкамі, падобны на двух буслоў, што прыткнуліся валлём. На ім уладна княжыла непачатая бутэлька рускай горкай; на газеце ляжалі акуратныя тонкія скрылькі тоўстай сыравата-ружовай, бы няспелы кавун, каўбасы, парэзаная долькамі цыбуля і паўбуханкі дарніцкага хлеба.

"Давай вып'ем за мой ад'езд, — сказаў Рыгор Маркавіч, прыціскаючы да грудзей хлеб, каб ашчадней адразаліся лусты. — Думаеш, мне патрэбны той Ізраіль? Я ведаю, што еду туды паміраць... З маім ціскам я там за два дні загнуся. Але што ты зробіш з нячыстай сілаю (ён меў наўвеце Соф'ю Іосіфаўну). Я ўсё жыццё ў яе хлапчук на пабягушках... Яна лічыць, што мае права здзекавацца з мяне, ведаючы, хто я... Але давай клюнем, тады раскажу». Узяў бутэльку; падкалупнуўшы цвёрдым каструбаватым пазногцем вялікага пальца, сарваў шапачку. Быў ён у новай сіняй кашулі; ёй тонка пасаваў блакітны, наўскось парэзаны белай ніткаю гальштук, на вузёл якога туга наплывала мажная, чыста выгаленая складка падбароддзя; увогуле твар ягоны, светла-каштанавы колерам, здаваўся свежым, не па-старэчы вышчаным. Можа, я проста зблізку Рыгора Маркавіча ніколі не бачыў, прынамсі, не глядзеў гэтак, як глядзяць на чалавека, ведаючы, што глядзяць у апошні раз. Не часты выпадак!

«Цяпер бутэлька — вялікі дэфіцыт, адна на талон у месяц», — сказаў я, каб ацаніць ахвяраванне Рыгора Маркавіча (раней нам не даводзілася з ім выпіваць).

«Ведаеш, як я раблю апошнім часам? — Ён перастаў наліваць, затрымаўшы бутэльку над чаркаю — дробненька, як зубы, стукала шкло аб шкло. — Падыходжу да вакенца крамы (многія словы ім натуральна вымаўляліся па-беларуску), кладу на прыстолак дваццацьпятку і кажу прадаўшчыцы: мне бутэльку, табе пятнаццаць рублёў рэшты".

«Давяраюць вам...»

«А што ёй мяне баяцца... раней баяліся, у гандляроў вока дай Бог».

Рыгор Маркавіч відочна на штосьці намякаў. Нарэшце ён наліў поўныя, як вока, чаркі. Наліваў ашчадна, тонкім струменьчыкам. Рука ў яго была ёмкая, пухлая, парослая тоўстымі дроцікамі валасоў. На пальцах цямнеліся драпіны парэзаў: Рыгор Маркавіч працаваў майстрам вытворчага навучання ў прафтэхвучылішчы абутнікоў, і паходжанне іхняе магло быць якоесьці прафесійнае.

Даю крыж: прыемна, калі цябе паважаюць. Калі павага не залежыць ні ад пасады, ні ад якіхсьці кланава-мафіёзных інтарэсаў, ні нават ад сябравання. Калі павага проста міжчалавечая. Я сядзеў зусім блізка ад Рыгора Маркавіча і біятокамі адчуваў ягоную павагу да сябе.

Мы з узаемнай удзячнасцю дакрануліся чаркамі на ўсю іх вышыню і выпілі.

Рыгор Маркавіч жаваў хлеб з каўбасою і цыбуляй павольна, як і хадзіў, як і ўсё астатняе рабіў; трывожная задуменнасць дратавала баразны маршчын на пляскавата захмыленым лобе, ад мяжы якога беглі ўверх звівістыя вужачкі рэдкіх валасоў; чорная радужка вачэй больш чым напалову заходзіла пад верхняе павека. У такой паставе, на такім асунутым абліччы яскрава вымалёўвалася асуджанасць. Яго можна было зразумець, старога, хворага чалавека, якога невядома дзеля якой прыхамаці ветраная дачка зрывала з сагрэтага месца.

«Я еду туды паміраць, — сказаў ён ціхім голасам сам сабе. І зноў празрысты струменьчык радасна паскакаў у чаркі. — Я табе скажу, хто я быў... хоць і даваў падпіску маўчаць. Толькі, слухай, не пужайся...» — Локці ягоныя памацнелі на стале.

І ён распавёў мне тое, што гняло яго, крамсала душу, а цяпер, перад вымушаным ад'ездам, скруціла яе ў нясцерпна-балючую каляровую вяроўку, на якой толькі засільвацца. Не рассекшы яе, як я зразумеў, ехаць у загадкава-далёкую чужую краіну ён не мог.

Увесну 34-га яго, маладога бабруйчаніна прызвалі ў войскі ОГПУ СССР (АДПУ — аб'яднанае дзяржаўнае палітычнае ўпраўленне), якое ўжо праз пару месяцаў* рэарганізавалі ў НКВД (НКУС). Прайшоўшы адпаведную муштроўку, ён прыводзіў у выкананне смяротныя прыгаворы судоў Ваеннай Калегіі Вярхоўнага Савета СССР. Пасля першых разоў яго ванітавала, ён забіваўся кудысьці ў цёмны запавуцінены куток і душыўся да жоўцевай гарчэчы ў роце; па начах ён выразна адчуваў, як хтосьці ходзіць зверху па ім — прагінаецца коўдра, у цела ўпіраецца нешта круглае прутка-жывое, як бы дзіця гоцае па ім каленьмі. Ён ускідваўся, трос галавою, акурат вынырваў з вады напаверх: ніякага дзіцяці каля яго, а таксама на ім не было. Але заснуць да раніцы не мог, яго калаціла ліхаманка, скручвала, выцягвала з цягліц жылле. Потым курчы мінуліся, іх змянілі сны — в ы р а з н ы я, як бы маляваныя карціны: ён цэліцца ў белатварую, аблепленую сырым жвірам постаць і ... прамахваецца. Яго пелянае халоднай анучаю страх за ўласнае жыццё: прыпішуць, што наўмысна шкадуе «ворага народа». Месяцы праз два прапалі і сны. Ён хадзіў на расстрэлы як на працу, пасля курыў папяросы, чытаў газеты, гуляў у даміно, пісаў нявесце Соні ў Мінск лісты... І толькі да аднаго не прызвычаілася ягоная істота — як у адказ на кулю патыліца чалавека выстрэльвае чорным дымным фантанчыкам...

«Я нікому нават з суродзічаў не прызнаваўся ў гэтым... толькі Соф'я Іосіфаўна ведала, — сказаў Рыгор Маркавіч, яшчэ ніжэй апускаючы пацяжэлую ад гарэлкі і налітую балючым успамінам галаву; вочы ягоныя глядзелі цяпер толькі бялкамі — вялікія, як ветахі. — Я не паехаў бы ў Ізраіль, калі б хто з маіх тут застаўся, і насіў бы сваю тайну да смерці... Мне цяжка яе будзе забіраць у магілу, тыя людзі мяне там не зразумеюць... Ты пісацель, бяры маю тайну, і мне лягчэй будзе паміраць, павер, сынок... — Ён заплюшчыў вочы, і ў густых вейках пачала вырастаць бліскучая і цяжкая, як іртуць, сляза. — Толькі не забудзь яе... Не забудзеш, не? Каб не забыўся, вось табе на памяць ад мяне... — Ён марудна ўстаў з табурэта, узяў штосьці на падаконніку і падаў мне. Гэта быў шавецкі нож, абматаны чырвоным ізаляваным дротам, тырчаў толькі зрэзаны наўскасы і сточаны да ліпучай вастрыні мысік. — Электрабрытва сапсуецца, можаш ім галіцца», — усміхнуўся Рыгор Маркавіч, і з-пад напухлых павекаў выплылі дзве шчаслівыя зорачкі. Я ўбачыў, як ён імгненна змяніўся: выпрастаўся, памаладзеў, паважнеў, быццам той бязмерны цяжар Неба, што ціснуў яму на душу, раптам выпарыўся.

А я зрабіў сам сабе выснову: тайна — тады тайна, калі ў ёй жыве патэнцыя стаць явяю. Больш дзікай, жахлівай тайны ў Рыгора Маркавіча не было, і ён спакойна мог ехаць паміраць у Ізраіль.

Ліпеньскім днём я глядзеў праз вакно ў двор. Свяціла млявае сонца, ад пабудоў і дрэў адвальваўся, як акаліна, сінявата-буры цень; астраўкі чэзлай травы, падбеленыя пылам, нагадвалі рассыпаную соль. Маладая жанчына ў лёгенькай блузцы вяла на павадку чорную абаранкахвостую лайку з белай манішкаю і не давала ёй прыпыніцца каля дрэва.

На двары стаяў сівы, запылены грузавічок накшталт рафіка, толькі без вакенцаў і з вышэйшым кузаўком; хвацкія хлопцы ў доўгіх цёмных халатах, прапаленых і парваных, выносілі з пад'езда і грузілі ў яго дбайна ўпакаваныя скрыні, чамаданы, торбы, і непамысна было ў мяне на сэрцы ад расставання з суседзямі, кожны з якіх за вонкавым шчаслівым фасадам меў чорны пакой уласнай трагедыі.

* * *

...У гэты вечар,святочны,калядны, я зноў, акурат жывыя, убачыў над сабою два ветахі вачэй Рыгора Маркавіча з радужкаю пад павекамі і падумаў: адзін збег ад адказнасці ў Ізраіль, а другі не паехаў туды, не пакаяўшыся, хоць віна ягоная, як цяпер мы разумеем, была толькі ў тым, што ён жыў у с т р а ш н ы м, набрынялым крывёю кавалку часу.

**Дакладна — 7 ліпеня 1934 года.*

# Ефрасіння БОНДАРАВА:

# «СВАБОДА ВЫМАГАЕ КУЛЬТУРЫ...»



**Напрыканцы леташняга года вядомы беларускі кінакрытык доктар філалагічных навук Ефрасіння Бондарава адзначыла свой юбілей. Ужо больш за чатыры дзесяцігоддзі займаецца яна пытаннямі кінатворчасці, шмат што за гэты час убачана, асэнсавана... Стан сучаснага айчыннага кінамастацтва характарызуецца ёю як крытычны. Ці ж ёсць перспектывы ў беларускага кіно! Якія яны!**

**— Ефрасіння Леанідаўна, на працягу многіх дзесяцігоддзяў аксіёмай успрымалася ленінская фраза «З усіх мастацтваў для нас важнейшым з'яўляецца кіно». Але апошнім часам кіно *прыкметна змянілася — і па* змесце, і па ролі, якое выпадае яму адыгрываць у грамадстве...**

— Узгаданыя вамі ленінскія словы набылі іранічнае адценне — толькі невядома, у дачыненні да Леніна ці да сэнсава*га напаўнення гэтых радкоў...* Бясспрэчна тое, што кіно валодае багатымі магчымасцямі. І яно пацвярджала гэта нават тады, калі заахвочвалася міфалагізацыя рэчаіснасці. Што цяпер адбываецца з мастацтвам, і не толькі экранным? Добра гэтага яшчэ ніхто не ўсвядоміў. Яно згубіла арыенціры і, адмовіўшыся ад ранейшых прынцыпаў, набыўшы іншы змест, пачало ствараць аднавартасную прадукцыю. Экран захліснула чарноцце, порна, гвалт; прыйшоў зусім іншы герой. Калі раней ён быў часцей за ўсё ідэалізаваны, хоць сустракаліся і рэалістычныя тыпы, дык цяпер герой мусіць быць нейкім дэбільным, духоўна хваравітым. Яшчэ лепш, калі гэта прыхільнік «таго берагу»: маўляў, «за кардонам» усё лепшае. Многія нашы творцы ў новай сітуацыі не навучыліся ствараць фільмы, якія б захаплялі, а не шакіравалі. Айчыннае «бесцэнзурнае» кіно больш непрыстойнае за замежны кіч. Адкрыліся вялікія магчымасці ў стылістыцы, будове канфлікту, у падыходах да *матэрыялу, але стваральнікі* фільмаў рушылі па шляху максімальнай разняволенасці і ўседазволенасці. А свабода вымагае культуры, маральнай і эстэтычнай адказнасці. Нічога гэтага няма ў большасці сучасных фільмаў. Кіно перад рэальнай пагрозай апынуцца за межамі мастацтва. Прынамсі, многія цяперашнія стужкі ўжо і не прэтэндуюць на мастацкасць.

**— Яшчэ ў 20-я гады Маякоўскі напісаў іранічны верш «Кіно і віно»: «Я должен иметь доход от кино не меньше торговца вином». Заказчык сёння — рынак, а значыць, менавіта ён дыктуе і вызначае творчую палітыку. Дык ці да мастацкіх ідэалаў, калі галоўным становіцца «таварнасць», «прадажнасць» фільмаў?**

— Вытворчасць фільмаў каштуе вельмі дорага, таму ўсе лічаць грошы, і мастакі — не выключэнне. Выбраўшыся з ідэалагічнай несвабоды, яны трапілі ў фінансавую. Вось і ўсчынаюцца размовы: а чаго ад кіно патрабаваць? Гэта ж відовішча, пэўная арганізацыя адпачынку! Але ў кінематографа ёсць і іншыя традыцыі. Сённяшняя сітуацыя спрыяльная толькі для тых, хто ведае, дзе што можна ўзяць — а такія людзі не заўсёды таленавітыя...

**— На тэлебачанні ёсць рубрыка, «Кінанастальгія», у якой паказваюць старыя фільмы. Заўважыла: як бы іх ні крытыкавалі, усё роўна людзі з задавальненнем глядзяць, стараюцца не прапускаць. Феномен?**

— Настальгія па старых фільмах — гэта, мяркую, перадусім рэакцыя на сённяшняе кіно, якое сцвярджае: чалавек — ненармальны, свет — ідыёцкі... У многім старое кіно было ілюзорным, наіўным, але ж яно выхоўвала добрыя пачуцці! А што лепш: верыць у светлую мару ці, гледзячы на экран, думаць пра безвыходнасць існавання? Да кінарэтра і пажылых, і маладых прыцягвае чысціня пачуццяў, якіх так не стае і ў грамадстве, і ў сучасным мастацтве. Цяпер кіно творыць больш зла, чым дабра. Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета рэспублікі варта было б прааналізаваць гэтую сітуацыю, вызначыць канкрэтныя шляхі дапамогі мастацтву.

**— Усім вядома, у якім цяжкім эканамічным становішчы апынулася рэспубліка. Магчыма, кінематограф уратуюць мецэнаты?**

— Не выключана. Аднак... Тое спонсарства, што ў нас было, не абнадзейвае. Ствараецца ўражанне, што яно існуе, пакуль некаму трэба адмываць грошы. Такая дапамога не дае плёну. Фундатарам кінамастацтва павінна заставацца дзяржава. Але галоўнае — каб на ўсіх узроўнях кінавытворчасці ставіліся не кан'юнктурныя мэты. Рэжысёр-пакутнік Андрэй Таркоўскі справядліва лічыў кіно заняткам не столькі прафесійным, колькі маральным.

**— Шмат наракаюць, маўляў, беларускія фільмы былі, але не было нацыянальнага кінамастацтва...**

— Не зусім справядлівае сцвярджэнне: лепшыя экранізацыі твораў *беларускіх пісьменнікаў* даволі шчыльна злучаліся з нацыянальнай культурай. Праблема ў іншым: асноўная маса стужак не вызначалася адметнасцю, здымалася не на роднай мове, хоць спробы захаваць нацыянальны каларыт былі ў В. Турава пры экранізацыі «Палескай хронікі» І. Мележа, В. Рыбарава ў «Чужой бацькаўшчыне» паводле В. Адамчыка, Ю. Марухіна ў «Маці ўрагану» паводле У. Караткевіча, І. Дабралюбава ў тэлесерыяле «Плач перапёлкі» па раманах І. Чыгрынава.

**— Пракат сёння трымаецца ў асноўным на замежных стужках не самай лепшай якасці. Няўжо для кінатэатраў гэта адзінае выйсце, каб выжыць?**

— Пракатчыкі таксама пастаўлены ў складаныя эканамічныя ўмовы. Уся ініцыятыва — што адбіраць, што купляць — у адных руках: манаполія пракату. А ён, мне здаецца, не настолькі творча і арганізацыйна наладжаны, каб мог разумна рабіць гэтую адказную справу.

**— Здаецца, мы купляем такія фільмы, якія ўжо ніводная краіна не купляе...**

— Так яно і ёсць. Калі зніклі цэнзарскія рамкі, з'явілася надзея, што нарэшце наш рэпертуар пашырыцца, узбагаціцца за кошт высокапрафесійных фільмаў. Некаторыя з іх трапілі на экран — стужкі Феліні, Антаніоні, Бергмана, іншых сусветна вядомых май*строў. Аднак арганізацыям,* якія купляюць за мяжой фільмы, ставяцца ўмовы: прадаецца, напрыклад, «оптам» дваццаць карцін, сярод іх 2—3 прыстойныя, за якія і плаціць пракатчык, астатнія ж — дадаюцца абавязкова. Лепш бы такога «дадатку» не было!..

**— Гэта як раней добрыя кніжкі куплялі з нагрузкай?**

— Прынцып аднолькавы. Толькі ў дачыненні да кіно нагрузка надзвычай небяспечная. Напэўна, ёсць сілы, якім выгадна гаспадарыць на кінапрасторы былога Саюза. У 70-я гады Заходняя Еўропа перажыла наступ амерыканскага кінематографа. Але творчая інтэлігенцыя дамаглася ад улад сваіх краін квоты на паказ замежных фільмаў. У нас — наадварот: выкідаюць сваё, каб вызваліць месца для чужых.

**— Не сакрэт, што заходнія стужкі ўсё ж вабяць моладзь — напэўна, гранічнай разняволенасцю, шокавай «тэрапіяй». З мэтай паставіць заслону парнаграфіі была прынята спецыяльная пастанова...**

— Дазволенае і недазволенае — гэта надзвычай далікатныя пытанні, самі крытэрыі адбору мусяць быць разумнымі, эстэтычна абгрунтаванымі. Інакш добрыя намеры могуць ператварыцца ў сваю процілегласць — забаронены плод, як вядома, асабліва салодкі: ізноў пачнуцца падпольныя паказы, начныя сеансы...

**— Ефрасіння Леанідаўна, змяняецца роля кіно — натуральна, змяняецца і роля кінакрытыкі. Хацелася б завастрыць пытанне: а ці ёсць перспектывы ў кінакрытыкі ва ўмовах, калі кіно грунтуецца на рынкавых прынцыпах?**

— Найпершы абавязак кінакрытыкі — дапамагчы гледачу спасцігнуць фільм у яго мастацкай прыродзе, і ў той жа час звярнуць увагу аўтараў на супярэчлівыя моманты іх творчасці. Невыпадкова Гогаль збіраў рэцэнзіі, дзе яго за нешта папракалі: казаў, гэта абвастрае розум, настройвае на большую патрабавальнасць.

Кінакрытыка мусіць асэнсоў-

# ЧЫМ ЗДЗІЎЛЯЦЬ БУДЗЕМ?

**(Пачатак на стар. 1).**

Дык вось. Пачалося з казуса. З таго, што пасля заканчэння музычнай 11-годкі яе не прынялі ў кансерваторыю. Не, па спецыяльнасці была ацэнка «пяць», асечка здарылася на экзамене па гісторыі СССР: «тройка».

Клас, у якім яна вучылася ў школе, праславіўся потым сваімі гадаванцамі: Аляксандр Друкт, Алег Крымер, Соф'я Окалава, Барыс Бергер, Ядвіга Паплаўская... Яна, Ганна Каржанеўская, тады ў кансерваторыю не паступіла і... была прынята туды ж на працу канцэртмайстрам у клас аркестравага дырыжыравання. Праз год у кансерваторыю паступіла. Скончыла яе з бляскам, але прафесія канцэртмайстра захапіла настолькі, што яна і не ўяўляла сябе ў іншай якасці: клас харавога дырыжыравання прафесара В. Роўды, клас сольных спеваў прафесара Т. Ніжнікавай — чаго яшчэ жадаць?

Чаго? Пазнання МУЗЫКІ. Ганна Каржанеўская была першай у гісторыі нашай кансерваторыі аспіранткай не па класе спецыяльнага фартэпіяна, а па класе канцэртмайстарскага майстэрства. За гады заняткаў у аспірантуры вывучыла яшчэ і скрыпічную літаратуру. І зноў творчая неўтаймоўнасць, апантанасць у працы — бо гэта ж яшчэ не ўсе «універсітэты». Ёсць жа яшчэ выканальніцкія конкурсы.

Конкурсаў было багата, многа было падрыхтавана ёю і *лаўрэатаў*. Дый сама сабрала ладную калекцыю дыпломаў за лепшы акампанемент. Дарэчы, Г. Каржанеўская — адзіны беларускі канцэртмайстар, які падрыхтаваў трох пераможцаў конкурсу імя М. Глінкі: М. Жылюка, М. Рысава ды Г. Лукомскую. Двое апошніх воляю лёсу жывуць за мяжой, працуюць, што немалаважна, па спецыяльнасці.

Даўно ўжо Г. Каржанеўская не працуе ў класе Т. Ніжнікавай, але два гады таму Тамара *Мікалаеўна пазванiла ды папрасіла*: «Ганначка, абвешчаны чарговы рэспубліканскі конкурс вакалістаў. У мяне ёсць дзве цудоўныя дзяўчынкі. Сярожа (канцэртмайстар класа) працуе першы год, для яго гэта яшчэ складана. Можа, возьмешся?» — «Вядома, дарагі прафесар». І адна з тых цудоўных дзяўчатак, Леся Лют, атрымала 1-ю прэмію, другая, Віка Курбацкая, — 2-ю.

Колькі ж іх было, гэтых цудоўных дзяўчатак і хлопчыкаў, якія прайшлі школу не толькі прафесараў, але і канцэртмайстра Г. Каржанеўскай... Вось ужо і карыфеі Т. Міянсарава, В. Шандаровіч, В. Чачава, Л. Іванова *пачалі бачыць у ёй не* вучаніцу, а калегу. Вось ужо і сама яна выкладае, вядзе клас канцэртмайстарскага майстэрства, вылучаная на пасаду дацэнта Беларускай акадэміі музыкі...

Беларускай? Гэтае пытанне выспявала ў ёй даўно. Чым беларуская музычная ВНУ адрозніваецца ад французскай, іспанскай, нямецкай? Няўжо толькі геаграфічным становішчам ды некалькімі сотнямі, хай сабе найвыбітных, твораў, але толькі апошніх дзесяцігоддзяў? А што было раней? Калі была, дык дзе яна, куды падзелася творчасць кампазітараў мінулага?

Знайсці адказы на гэтыя пытанні... Ці нельга паспрабаваць? Напрыклад, выканаўшы цыкл канцэртаў, агледзець гісторыю нацыянальнага вакальнага мастацтва. Так узнікла ідэя «Анталогіі беларускай вакальнай музыкі». (Аўтар гэтых нататкаў удзельнічае ў канцэртным цыкле ў якасці саліста). Але як будаваць работу? Замежныя аналагі тут не спрацуюць. Вядома, і Д. Фішэр-Дзіскау ў Германіі, і І. Архіпава ў Расіі са сваімі канцэртмайстрамі правялі гіганцкую творчую працу, але толькі выканальніцкую. Ім было прасцей, бо і ў Германіі, і ў Расіі да паслуг музыкантаў — стагоддзі нотавыдавецкай ды архіўнай дзейнасці. На Беларусі ж музыка мінулага — terra incognita.

*Так што ў працы над нашым* цыклам Г. Каржанеўскай давялося выступіць у ролях ініцыятара, музычнага рэдактара, кур'ера (па ноты Я. Тарасевіча, творы якога рыхтуюцца да выканання ў будучым сезоне, давялося з'ездзіць за мяжу), кампазітара (аранжыровак вымагалі многія творы), гісторыка-культуролага, архівіста, інтэрпрэтатара... Ну, і, само сабой зразумела, — уласна артыста-канцэртмайстра.

Ці атрымалася? Амаль пра кожную праграму рэцэнзенты пішуць: «Адкрыццё! Творчая рэабілітацыя! Вяртанне!» І, нарэшце, — «АДРАДЖЭННЕ». Думаю, перабольшання тут няма. Неабдымнае кола эпох: Барока, класіцызм, Рамантызм, усе эстэтычныя павевы XX стагоддзя. Кола жанраў: канцоны, песні, вакальныя цыклы (сярод іх першы ў гісторыі сусветнай музычнай культуры «Да Касі» *М. К. Агінскага*), рамансы, балады, урыўкі з кантат ды опер. І ўсё гэта ахоплена праз прызму сучаснага выканальніцтва, праз самаадданае служэнне пастаўленай задачы.

Больш як сто канцэртных выступленняў на Беларусі, у замежжы (не толькі блізкім, а і дальнім): Полацк, Віцебск, Убель (радзіма С. Манюшкі), Пецярбург (Вялікая зала філармоніі), Масква (заключны канцэрт фестывалю «Московские звезды»), Харкаў, Варшава, Лодзь і г. д., і г. д. І паўсюль — толькі беларуская музыка, і паўсюль — захапленне публікі. Больш за сто запісаў у фондзе Беларускага радыё — гукавая гісторыя вакальнай музыкі нашага народа. Інакш як творчым подзвігам такую дзейнасць не назавеш, ды гэтак у адной з рэцэнзій і напісаў У. Шаліхін — нязменны вядучы канцэртаў «Анталогіі».

Цыкл яшчэ не скончаны. Наперадзе некалькі праграм (XIX стагоддзе, пачатак XX стагоддзя, беларускае замежжа). А мы, абапіраючыся на вопыт «Анталогіі», падумалі: можа, абагульніць назапашаны музычны матэрыял у іншых жанрах і скласці канцэртны цыкл беларускай гістарычнай музыкі? Вось так і ўзнік спачатку фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы», а потым і ўласна «Беларуская Капэла» — творчае аб'яднанне. Бясспрэчна, без вопыту «Анталогіі» ў цяперашні час яе

ваць творчы працэс. А калі кінапрацэс парушаны? Аналізаваць кожны фільм немагчыма, дый падстаў няма: фільмы ў пераважнай бальшыні падобныя, іх можна аб'яднаць адной назвай: усюды персанажы страляюць або гвалцяць, нехта за некім ганяецца ці «займаецца каханнем» (трапляюцца і карціны больш сур'ёзныя, але яны не робяць «пракатнае надвор'е»). Крытык адзін раз пракрычыць, што не ўсё добра ў рэпертуары, другі, трэці... Ну і што? Хто зарабляе грошы на «макулатуры», таму крытыка непатрэбна. Цяпер няма нават сістэмы ўліку фільмаў, якія здымаюцца на студыях СНД. Па меркаванні маскоўскіх кіназнаўцаў, ігравых карцін выдаецца звыш чатырохсот у год. У пракат жа трапляе нязначная іх частка, іншыя калі і закуплены, у кінатэатрах не дэманструюцца. Складаецца ўражанне, што нейкія «ценевыя сілы» ўжо кіруюць рэпертуарнай палітыкай... А крытыку сёння можна агулам абразіць, як гэта зрабіў І. Мацвееў, «абараняючы» на старонках «Народнай газеты» (21 лістапада 1992 г.) рэжысёра Ігара Дабралюбава ад «чырвоных сацрэалістаў» (?!).

У беларускай кінакрытыкі вельмі абмежаваныя магчымасці. У рэспубліцы дагэтуль няма спецыялізаванага кінавыдання: бюлетэнь «На экранах Беларусі» дае толькі анатацыі на фільмы. Мы неаднойчы намагаліся ператварыць яго ў крытычна - публіцыстычнае выданне, — дарэмна. А вось Саюз тэатральных дзеячаў пачаў-такі выдаваць часопіс «Тэатральная Беларусь» — і дай Божа, каб ён сцвердзіўся. Хіба кінематографу не патрэбна падобнае выданне?

**— Прагнозы — рэч няўдзячная. І ўсё ж... Праблемамі кінамастацтва вы займаецеся з пасляваенных гадоў, многае ўбачана, асэнсавана. Якія, на ваш погляд, перспектывы ў нацыянальнага кінамастацтва?**

— «Рынкавую» хваробу, напэўна, яно адолее. Але па стылістыцы, канфліктах, вобразнасці, дый па тэхнічных сродках усё шчыльней будзе злучацца з тэлевідовішчам. Арганічнай часткай нацыянальнай культуры кіно наўрад ці зробіцца без адзінай сістэмы вытворчасці і пракату, без сур'ёзнай дапамогі дзяржавы.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**
Фота С. ПЛЫТКЕВІЧА.

стварэнне было б немагчымае. Ды гэта тэма іншай размовы. А мы вернемся да творчасці Г. Каржанеўскай.

Асобы адраджэння ніколі не замыкаюцца ў нацыянальных межах, не абмяжоўваюць сябе ў адной галіне ведаў ці творчасці. Гэтую філасофскую аксіёму бліскуча пацвярджае сваёй дзейнасцю Ганна Каржанеўская. Пачынаючы новую праграму, яна заўсёды пытаецца ў партнёра і ставіць гэтае ж пытанне перад сабой: «Чым здзіўляць будзем?» Проста агучыць ноты ды вершаваны тэксты — гэта сумна і выканаўцу, і тым больш слухачу, і — здзіўляе! Мастацкімі адкрыццямі. Прыгадваюцца праграмы «Шуберт і Мусаргскі» з Г. Лукомскай, «Рахманінаў» з Н. Галеевай, «Дэ Фалья і Гранадас» з Т. Пячынскай, «Глінка» з А. Рудкоўскім, «Чайкоўскі» з І. Шыкуновай, «Расіні» з Н. Галеевай, Л. Лют і Т. Цівуновай...

Заўтра я зноў увайду ў клас свайго настаўніка, сцэнічнага партнёра і вялікага друга і пачую, як заўжды: «Чым здзіўляць будзем?» Але гэта заўтра. А сёння я віншую Ганну Каржанеўскую з вясновым святам, зычу ёй шчасця і радасці і дзякую Лёсу і Богу за тое, што маю магчымасць столькі год дзівіцца яе цудоўнаму таленту.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ.**

**ВІНШУЕМ!**

# Чалавек, які сабраў тэатр

Анатоль Аляксандравіч Ляляўскі — рэжысёр, стваральнік Дзяржаўнага тэатра лялек Беларусі. Не жарт — паставіць каля ста спектакляў, вырасціць не адно пакаленне высокапрафесійных акцёраў, вывесці тэатр, а значыць, лялечнае мастацтва Беларусі, на міжнародны ўзровень! І вось сустрэць свае семдзесят гадоў, з чым паплечнікі й калегі яго шчыра віншуюць.

*Дзівосны чалавек Анатоль Аляксандравіч! Усе самыя вытанчаныя эпітэты як мага лепш падыходзяць да яго, быццам менавіта для яго і прыдумваліся.*

Рэфарматар? А чаму б і не? Узяў ды й адкрыў дзіцячы тэатр даросламу гледачу. І цяпер ужо дзіўна й незразумела, як у нас магло не быць спектакляў для дарослых. А колькі новых форм прынёс ён на тэатр? Адкрыццяў розных? І самае галоўнае — колькі акцёраў ён адкрыў!

Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзіслаў Уласаў і яго жонка актрыса Аляўціна Іванова, гаворачы пра Анатоля Аляксандравіча, падкрэсліваюць ягонае імкненне выявіць акцёрскую самастойнасць, самыя яркія бакі індывідуальнасці. Я згодны з тэатральнай парай: шчасце, калі ствараюцца жывыя акцёрскія спектаклі, калі няма рэжысёрскай муштры, калі ў цікавай мізансцэне, прапанаванай майстрам, акцёр можа быць добрым, цікавым, пераймальным...

Варта пабыць побач з Анатолем Аляксандравічам зусім нямнога часу, як міжволі пачынаеш гаварыць *пра яго з... клічнікамі*, як гэта робіць, напрыклад, актрыса Валянціна Пражэева: «Я закаханая! Ён заўсёды падцягнуты! Поўны прагі ведаў! А які эрудыт! А яго Богам дадзены талент апавядальніка! А яго ўменне быць іранічным, але пры гэтым неверагодна сціплым! А ахвота да падарожжаў! А ўменне тонка адчуваць і накіроўваць маладога артыста! І...-ах, гэтыя з хітрынкай... вочы! Я закаханая, я хачу, каб гэта ведалі ўсе!» Усе гэта ведаюць, і нікога гэта не здзіўляе.

Заслужаны артыст Беларусі Аляксандр Казакоў абвяшчае проста: «Я ўдзячны лёсу за тое, што трапіў на курс да Ляляўскага, а потым у тэатр пад яго кіраўніцтва. Ён навучыў мяне прафесіі, паверыў у мае творчыя магчымасці, памог разабрацца ў нашым цяжкім мітуслівым жыцці. Дай Бог яму здароўя!»

Удзячная лёсу за сустрэчу з Ляляўскім і актрыса Яна Агеенка: «Усе сустрэчы з ім, дараваныя мне лёсам, былі па-сваяцку цёплымі, жаданымі, цікавымі і казачна-фантастычнымі...»

Для акцёра Алега Сцепанюка Ляляўскі — увасобленая «...мудрасць, працавітасць, гумар, любоў, іронія, штосьці ад Бога, што і вытлумачыць немагчыма...» Валянціна Белаш лічыць, што іх курсу вельмі пашанцавала: «Анатоль Аляксандравіч — наш педагог. Як мы чакалі заняткаў з ім! Усе яго заўвагі былі дакладныя, нават жорсткія, патрабаванні вельмі высокімі, але ніхто ніколі не быў пакрыўджаны, а гэта для студэнта так важна... Бо гэта менавіта ён навучыў мяне шукаць прычыну няўдач у сабе самой!... А яшчэ мы *любілі* яго за тое, як ён смяяўся... Ён проста рагатаў! У яго цяклі слёзы, рагатаў услед за ім увесь курс! Смех гэты быў добры!»

Ляляўскі — рэжысёр. Ляляўскі — педагог. Ляляўскі — тэарэтык лялечнага мастацтва (аўтар шэрагу невялікіх, але вельмі важных для прафесіяналаў кніжак). Распавёў у іх, паводле слоў заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Грамовіча, як трэба... збіраць тэатр, бо сам «...чалавек, які па каліўцу збіраў тэатр. І зрабіў яго адным з лепшых...».

**Сведчанні здзіўлення, захаплення і любові сабраў акцёр Аляксандр ВЕРГУНОЎ.**

**ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА**

# ЖАНЧЫНА НА ЎСЕ ЧАСЫ

*У музычных колах вестка пра тое, што Зінаіда Мажэйка ўключана ў Кембрыджскі даведнік аб жанчынах свету, якія дасягнулі асаблівых поспехаў за 1992 год («жанчына года»), не выклікала здзіўлення.* Міжнароднае прызнанне беларускага этнамузыколага не навіна. Сапраўды, яе пласцінкі «Музычны фальклор беларускага Палесся» і «Песенны фальклор паўночна - усходняй Беларусі» адзначаны гран-пры ЮНЕСКА, у прэстыжных міжнародных фестывалях розныя ўзнагароды атрымалі яе фільмы «Галасы вякоў», «Памяць стагоддзяў», «Пранясі, Божа, хмару». Яна нязменна ўдзельнічала ў колішніх савецка-амерыканскіх сустрэчах этнамузыколагаў, брала ўдзел у навуковых сімпозіумах у Югаславіі, Польшчы, Балгарыі. Яе навуковыя працы, паводле сведчання Старшыні камісіі па славянскім фальклоры пры Міжнародным камітэце славістаў В. Гусева, атрымалі высокую адзнаку спецыялістаў усіх славянскіх краін.

Але вялікае бачыцца здалёк, і, як гэта ні банальна, няма прарока ў сваёй айчыне. Сустракаючы Зінаіду Якаўлеўну на пасяджэннях праўлення Саюза кампазітараў, дзе яна адстойвае інтарэсы фальклорнай секцыі, якую ўзначальвае, слухаючы яе філіпікі ў адрас тых, хто перашкаджае працы (а такіх нямала, у асноўным так званае «начальства»), разумееш, чаму даводзіцца ёй пераадольваць столькі цяжкасцей і перашкод. Нічога не зробіш — такі характар. Тут і адвечная гатоўнасць да барацьбы за праўду, бескампраміснасць, непрызнанне чыноўных аўтарытэтаў (такой не пакіруеш!), а яшчэ—вострае пачуццё гумару і схільнасць да трапнага слоўка (як прыпячатае, дык прыстане надоўга). Можа, менавіта гэта, як і прастата, жывасць у зносінах з людзьмі, зрабіла яе сваёй у асяроддзі вяскоўцаў — народных спевакоў, вызначыла яе самабытны талент фалькларыста ласкаю Божай.

Нядаўна мне давялося прысутнічаць на абароне доктарскай дысертацыі Мажэйкі, што я адчула як свята беларускай навукі. Яе даследаванне каляндарна - песеннай культуры Беларусі ўражвае сваёй фундаментальнасцю, шырынёй ахопу матэрыялу. Тут спалучаюцца гістарычны, геаграфічны, культуралагічны, эстэтычны, псіхалагічны і стылістычны аспекты. Каб лепей адчуць значнасць працы, прывяду выказванні апанентаў — шаноўных навукоўцаў з сусветна вядомымі імёнамі.

І. Зямцоўскі (С.-Пецярбург): «*Кніга Мажэйкі* відавочна падсумоўвае (каб не сказаць замыкае) цэлую эпоху ў вывучэнні беларускага абрадавага меласу і ў той жа час выносіць вывучэнне тэмы на новы рубеж практычнага асваення і тэарэтычнага асэнсавання»; С. Грыца (Кіеў): «Праца Мажэйкі унікальная... Яна мае не толькі вялікую навуковую, але і экалагічную каштоўнасць»; М. Сабініна (Масква): «Важная якасць працы Мажэйкі заключаецца ў жывым, трапяткім адчуванні паэзіі беларускага каляндарнага фальклору ў сінтэзе бездакорнай тэарэтычнай карэктнасці — і артыстызму, свабоды і яркасці эмацыянальнага ўспрымання... Мажэйка не проста буйны навуковец, гэта гарачы, тэмпераментны змагар за захаванасць, чысціню і стымуляванне народнапесенных традыцый»; Н. Талстой (Масква): «У заслугу Мажэйкі можна, безумоўна, паставіць сур'ёзную распрацоўку праблем этнамузычнай дыялекталогіі, атрыманне першых вынікаў на шляху стварэння беларускай этнамузычнай геаграфіі — дысцыпліны, якой у славянскім свеце, безумоўна, належыць вялікая будучыня і якая ва ўсіх *славянскіх краінах* знаходзіцца пакуль у зародку».

Зразумела, вынік галасавання быў аднадушны... Але прамінула свята, пачаліся будні. Я спытала ў Зінаіды Якаўлеўны, ці скончылася блытаніна з яе службовым становішчам у акадэмічным інстытуце, ці далі ёй урэшце стаўку. На той час гэта было яшчэ не ясна. Але з'явіліся надзеі: *ейная* тэма «Беларуская этнамузыкалогія ў еўрапейскім кантэксце» выйграла конкурс, і Фонд фундаментальных даследаванняў пры Савеце Міністраў рэспублікі даў на яе сродкі. Цяпер можна з галавою акунуцца ў працу. Ды яна і не прыпынялася. Поўным ходам ідуць здымкі новага фальклорнага фільма «Крывыя вечары». Задума найцікавейшая! З нецярплівасцю чакаю яго выхаду на экран.

А пакуль мяне не пакідае думка, што належных умоў для працы З. Мажэйкі ўсё ж няма. Навуковец такога калібру проста абавязаны мець сваю навуковую лабараторыю, якая, дарэчы, стварыла б падставу для з'яўлення вельмі патрэбнай для нацыянальнай культуры навуковай школы З. Мажэйкі. Што ж, будзем спадзявацца...

**Радаслава АЛАДАВА.**

**МУЗЫКА**

# ПАЎВЕКА З ДНЯ ПРЭМ'ЕРЫ

Лёс калабарацыяністаў — гэта заўсёды драма. У буржуазнай Еўропе, як вядома, іх чакала суровае грамадскае асуджэнне. Але палітычныя памылкі ды ваганні той ці іншай творчай асобы не замінала грамадскаму прызнанню яе заслуг у мастацтве. Тое — у Еўропе; савецкі ж закон не дазволіў хоць бы захаваць у гісторыі беларускай музыкі імя кампазітара Міколы Шчаглова (Куліковіча), аднаго з вядучых дзеячаў нацыянальнай культуры перадваеннага перыяду. Сёння, вяртаючы ў наш ужытак гэтае імя, мы з цывілізаванай памяркоўнасцю ўглядаем і дзейнасць М. Шчаглова ў трагічную для нашае зямлі, для люду нашага, часіну нямецкай акупацыі. І прыгадваем, што 28 лютага 1943 г. у Менскім народным тэатры адбылася прэм'ера оперы М. Шчаглова «Лясное возера», якая перадавалася і па радыё.

У аснове сюжэта — трагічная гісторыя кахання князя і сялянскай дзяўчыны. Паэтка Н. Арсеннева, *аўтар лібрэта*, адгукнуўшыся на смерць М. Куліковіча-Шчаглова ў 69-м, пісала: «Лясное возера» было створана кампазітарам у першыя гады нямецкае акупацыі Беларусі. Памятаю, як сёння, тыя галодныя й халодныя часы, калі я пісала да гэтае оперы лібрэта. Паэт, раўнуючы да кампазітара, бясспрэчна пакрыўджаны доляй. Слова бо шмат цяжэй успрымаецца слухачом, чымсьці музыка, дый імя ягонае ў агульным су-творы губляецца, памінаецца. Ды ўсё ж радасна, як ніколі, было пачуць свае словы, прабуджаныя, ажыўленыя музыкаю Міколы Шчаглова. Мо таму, што ад першага знаёмства, ад першага сутыку нашых талентаў, мы нейкім дзіўным чынам знайшлі супольную мову, сугучнасць, зразуменне. Музыка кампазітара незвычайна зліваласа з маімі словамі й думкамі. Мне здавалася, што каб я была й паэтам, і кампазітарам, я б сама лепшае музыкі да сваіх слоў напісаць не патрапіла. Асабліва падабалася мне працягненая як быццам чорнаю ніткаю праз усю канву оперы музычная тэма долі, трагічнага людскога Кону, тае долі, долі-чужаніцы, у якое «нельга адпрасіцца», што «хоча — дорыць шчасцем, хоча — гнець і ломіць, аж жыццё людское, як той колас зломіць». За аснову песні аб долі, што выконваецца ў першым акце оперы квартэтам, а прыканцы вялікім хорам, кампазітар узяў народную песню «Палыночак», ператварыўшы яе сваім талентам у глыбока-трагічнае сведчанне людское бяссільнасці перад Конам. Памятаю, калі ў фінале оперы вялікі хор Менскага тэатра разам з салістамі спяваў над целам забітага дружыннікам Данілаю князя: «Цябе, доля злая, праклінаюць людзі, праклінаюць з болем, праклінаюць... славяць, славяць, цябе, доля!» — сапраўды, як кажуць, мароз бег па скуры й балюча і моцна білася сэрца». (Фрагмент неапублікаванага некралога, дасланага ў «ЛіМ» Г. Пікардам).

Дарэчы, Г. Пікарда заўважае, што опера «Лясное возера» была тады вельмі высока ацэнена беларускімі ды «цывільнымі» нямецкімі крытыкамі. Яны адзначалі ўкаранёнасць твора ў традыцыі музыкі XIX ст. і ў той жа час — знітаванасць з сучаснасцю, ухвалялі кампазітарскую мову, у якой было не механічнае цытаванне народных мелодый, а фальклорны ўплыў.

**С. Б.**

рэтраспектыўных прац — ад Александровіча да Янушкевіча, — тут **праблемы літаратуразнаўства** няма.

Што да Еўропы... У сэнсе інтэграцыі культур і нацыянальных светапоглядаў панеўрапеізм нічым не лепшы за панславізм ці савецкую шматнацыянальную культуру. Ёсць ты і свет, а нацыянальнасць — прылада сувязі паміж табою і светам. Дзеля чаго тут пасрэднікі, нейкія прамежкавыя лучнасці? Ім няма месца і таму яны заўсёды — за кошт тваё нацыянальнасці, **за кошт** яе універсалісцкіх памкненняў ды патэнцыялаў. Тут або — або. Або мы прыстасоўваем сваю культуру да патрэб чалавечага сумоўя, або бяром нечую ўжо прыстасаваную культуру і прыстасоўваемся да яе. У другім выпадку нашая культура страчвае ўсялякае рацыянальнае, практычнае значэнне, і служыць адно дзеля таго, каб, прачытаўшы расейскамоўны ці польскамоўны томік якога-небудзь Картасара, ты мог у салодкім драматызме выгукнуць глыбока сваё — «Людзьмі звацца!».

Цяпер дэфініцыя. Літаратуразнаўства — гэта сукупнасць думак пра літаратурныя творы, іх аўтараў і літаратуру ўвогуле.

Нацыянальнае літаратуразнаўства ... Гэта як нацыянальная філасофія. Станаўленне апошняй непарыўна звязана са станаўленнем мовы. Гэта ўзаемнае станаўленне. Шэкспір Пастэрнака і Шэкспір Гаўрука — два зусім розныя Шэкспіры. І ад таго, што ты перакладзеш на беларускую мову Шэкспіра Пастэрнака, Шэкспіра па-беларуску не з'явіцца. Калі б Гаўрук пераклаў Хайдэгера, можна было б ужо нешта сказаць пра беларускую філасофію. Калі б — Барта, можна было б — пра літаратуразнаўства. Тут усё пачынаецца з мовы, якая ёсць мысленне.

## IV.

Мужык для Багушэвіча, Купалы і «Нашай Нівы» — метафара таго становішча, у якім апынуліся нашыя мова і культура. Ні першы, ні другі, ні трэцяя не былі «мужычыя» па сутнасці. Інтэлігентнасць іх — Багушэвіча, Лучыны, Гарэцкага, Уласава, Багдановіча, Луцкевіча, Канчэўскага — ніяк не стасуецца з «мужыцтвам», на глебе якога вырасла люмпен-пралетарская ідэалогія, у рэчышчы якой дагэтуль разглядаюцца іхнія творы. «А хто там ідзе... на нагах у лапцях... на плячах у крыві...» Пачытай гэта вясковаму гаспадару дзесь пад Карэлічамі ці пад Шумілінам — і ён паморшчыцца. А ў навукоўца з менскай акадэміі ад гэтых слоў у вачах з»яўляецца бляск. Людзьмі звацца! Вясковыя гаспадары, выпускнікі беларускіх вясковых школ ніколі не стануць дэкламаваць тое, што прыніжала б іхнюю годнасць, у тым ліку — нацыянальную.

Я неяк папрасіў аднаго «мужыка» з-пад Мазыра ўзгадаць што-небудзь гэткае са школы. І ён прадэкламаваў:

*Ўсё прайшло, мінула,*
*Як і не было,*
*У капцох паснула,*
*Зеллем парасло...*

Чым яму запомнілася менавіта гэта? Адказ будзе — ад эстэтыкі, а не ад сацыялогіі.

Лапатнасць «Нашай Нівы» стала такой ужо аксіёмай, што перастаеш давяраць. Жылі беднавата, не надта дбаючы пра свой «офіс» і побыт, напэўна ж не вялі прыходна-расходных гросбухаў, жылі спантанна, што з аднаго боку давала перабоі — з «тартоў» на хлеб-ваду (зламаную ножку рэдакцыйнай канапы апісалі ва ўсіх успамінах, але ніхто не дадумаўся яе падладзіць, як зрэшты й падмесці лішні раз у памяшканні), а з іншага боку давала пэўную вольнасць творчым натурам не залежаць ад рэгламентаў быту. Пазнейшым навукоўцам гэта давала плён для сацыяльных высноў.

Цішка Гартны пісаў успаміны пра беднасць і запусценне ў памяшканні рэдакцыі, пра пыл і нэндзу. Але між іншым заўважаў, што на сценах былі развешаны залатыя старасвецкія рэчы...

«Вечарамі амаль уся віленская інтэлігенцыя збіралася ў цукерні «Зялёны Штраль». Тут, седзячы за кубкам чорнай кавы, можна было паслухаць Чайкоўскага, Леанкавала, Маснэ ў выкананні квартэта пад кіраўніцтвам вядомага віяланчэліста Тхоржа; тут можна было пабачыць цікавых людзей: паэтаў і пісьменнікаў, акцёраў тэатра, жывапісца Рушчыца, карыкатурыста Камілюса, скульптара Янкоўскага; тут часта можна сустрэць Янку Купалу, Змітрака Бядулю, Максіма Гарэцкага, Леапольда Родзевіча... ды ці мала каго! Кожная група мела свой асобны столік. У «Зялёны Штраль» не ўсіх пускалі. Для шырокай публікі існаваў «Чырвоны Штраль».

Ні больш ні менш гутарка ідзе пра тагачасную віленскую эліту, у якой «Наша Ніва» займала, як бачым, не апошняе месца. «Я мужык, беларус...» І вось цяпер — увага! Сацыяльны аспект! Я працягваю цытату з успамінаў Паўліны Мядзёлкі: »Памятаю, прыехала да мяне ў Вільню мая маці. Павяла я яе да Штраля. І вось пры ўваходзе мяне прапускаюць як вядомую ўжо кліентку, а маме швейцар забараняе ўваход. Чаму? Бо на галаве ў яе, бачыце, не капялюш або берэт, як у мяне, а звычайная паркалёвая хустачка... Тады я, пакінуўшы часова матку ля дзвярэй, увайшла ў залу і звярнулася па дапамогу да сваіх сяброў. Выклікалі самога Штраля — такі скандал яму ўчынілі, што сам пабег да дзвярэй, папрасіў у маці прабачэння і правёў яе ў залу».

Гэты кавалак вельмі важны для беларускае культуры, для зразумення таго, што з культурай адбудзецца пазней. «А хто там ідзе» пісалася за кубачкам кавы ў элітарнай віленскай рэстарацыі пад музыку Маснэ. А хто там ідзе — было толькі метафарай беларушчыны!..

Сацыялагізацыя ніверлюе літаратурны працэс, блытае вясковых самавукаў з прафесійнымі літаратарамі. Не добрае з благім ці нізкае з высокім, а сацыялогію з эстэтыкай.

Паводле тых крытэрыяў, якія напрацаваны беларускім савецкім літаратуразнаўствам, Купала нічым не адрозніваецца ад Старога Уласа. І блытаніна цягнецца да сёння. Гэтаксама цяжка паводле крытычных інтэрпрэтацый адрозніць, напрыклад, Разанава і Мятліцкага, я ўжо не кажу пра больш блізкія з'явы. Паэзія, што тут скажаш!... «У адным замацованы радзе».

## V.

Чытаючы Купалу без кантэксту, культура, зарыентаваная на класіку, пазбаўляе сябе поступу. У межах «мужыцкасці» яна вычарпала сябе вельмі хутка, дасягнуўшы пэўнай колькаснай кандыцыі. Якасны арыенцір адпачатку быў пастаўлены «ззаду». І таму калі ты пытаешся, якія патрабаванні можна сёння вылучыць да нацыянальнай культуры, я адкажу — ніякіх. Недзе далёка ад уласнага народа, у забытым людзьмі і Богам зімовым лесе гэты глушэц метадычна паўтарае адзін і той танец. І толькі зусім выпадковы паляўнічы залюбуецца раптам гэтай аднастайнай паўтаральнасцю.

Нішто не кліча, не вабіць, не прыцягвае цябе падняцца. Ні вышыня развag, ні шырыня погляду, ні вечнае жыццё... Што ты спіш, мужычок, дактарок-прафесарок? ... Падымайся з нізін...

За апошнія 10 гадоў максімум, што можна было зрабіць — гэта праз фанатызм, іронію і скепсіс прыйсці да разумення дасканаласці тых формулаў у іхні час. Багушэвіч, Купала і «НН» аказаліся зусім не такімі лапцюжнымі прымітывамі. Прымітывам лічылася беларушчына. Але разуменне гэтага сёння — гэта і ёсць смерць культуры. Наступнікам давядзецца глыбока прадумаць сваю сітуацыю. Што ёсць сёння мова і яе метафарычнае адлюстраванне ў літаратуры? Які ўвогуле характар беларускае культуры, якую мы прыбудоўваем? І — да чаго? Словам, пакуль ты не змяніў ключавыя формулы, нітка будучыні фатальна бяжыць з тваіх рук, а мова фатальна пакідае апошнія свае прыродныя гнёзды...

*г. Вільня*

---

выпіскаць са свае самасвядомасці комплекс «мужыцкасці». Сацыялагізацыя эстэтыкі была непазбежнай: «мужыцкасць» сацыяльнага паходжання адмыслова спалучалася са светапоглядам інтэлігента ў першым пакаленні. Дарэчы, ніхто такіх падлікаў не рабіў, але, відаць, «першапакаленцы» дасюль пераважаюць у беларускай літаратуры...

●

Мабыць, ты сапраўды прыспешваеш падзеі. ТАК будзе сапраўды заўтра. Іншая рэч, якія цяглавыя механізмы вымкнуць адрэстаўраваную культуру ў тое заўтра. Шукаючы адказу на гэтае пытанне, нам, здаецца, аніяк не абысці тэмы элітарнасці ў культуры — і на ўзроўні метафары, і на ўзроўні сацыяльным. Калі «Нашу Ніву» (сучасную) перакласці з «тарашкевіцы» на афіцыйны правапіс, дык яе элітарнасць пэўна здэфармуецца — гэтак жа, як зьнакшыцца ўспрыманне «ЛіМа», выдадзенага, дапусцім, у старым правапісе. А ўсё таму, што мы аднолькава тузаемся паміж «элітарнасцю» і «масавасцю», раз-пораз мусова аднаўляючы старыя формулы — грунт, — і адразу пераходзячы на ўзвышэнне, куды цягнем за сабою чытача, разумеючы, што грунт — яшчэ не элітарнасць, а толькі яе перадумова. Пагалядзі, як розняцца нашы аўтары — сярод іх і слесары, і прафесары, і хатнія гаспадыні. І — парадокс — яны неяк змяшчаюцца разам на адной паласе ... Дзе ты, electis?

Элітарнасць ёсць прылада, што дапасоўвае нацыянальнае (літаратуру, тэатр, кіно і г.д.) да агульналюдскага. Нацыянальнае — а яно ўяўляецца ўсё-такі адмежаванай тэрыторыяй спаміж іншых культурных палеткаў свету — павінна мець такую інстытуцыю, у якой яно перакладалася б на мову людства, і, наадварот, дзе агульначалавечае адаптавалася б да патрэб нацыянальнай культуры. Нацыянальная культура павінна мець паміж сабой і людствам пасрэдніка, які ў дыялогу natio з Светам выконвае функцыю перакладчыка, забяспечвае паразуменне бакоў і захаванне балансу інтарэсаў.

Electis, трэба думаць, узнікае тады, калі дзяржава і грамадзянская супольнасць канчаткова разыдуцца па розных полюсах, размяжуюцца. Але пры ўмове, што дзяржава будзе зацікаўлена ўтрымліваць сферу нацыянальнай эліты. Пытанне, ці сама дзяржава створыць гэтую сферу, закладзе адукацыйныя, эстэтычныя, выхаваўчыя і якія іншыя інстытуты элітарнасці, — ці ініцыятыва будзе зыходзіць з нетраў самага грамадства. Хутчэй за ўсё, гэта працэс двухбаковых намаганняў.

Рацыя: культура пачынаецца там, дзе канчаецца дзяржава. Дзяржава ўвогуле не той орган, што выпрацоўвае культуру; яна, хутчэй, ахоўнік-забеспячэнец культуратварэння — інстытутаў і акадэмій, пісьменніцтва, тэатра і музыкі і г.д. Пагалядзі, амаль усё што-кольвек новае і заўважнае ў культуры апошнім часам узнікае пераважна як плён прыватных альбо напалову прыватных ініцыятыў: ці то аднаўленая «НН», ці то фальклорны гурт «Ліцвіны», ці то факсімільныя выданні «Кааперацыйна-выдавецкага таварыства "Адраджэнне"». У сціжме прыватных ініцыятыў, несумненна, трэба ўсведамляць і студэнцкія суполкі, рэлігійныя грамады, «Беларускую капэлу». Паўсюль вызначальная роля належыць Асобе: С.Дубаўцу, У.Берберову, А.Жынкіну, М.Матрунчыку, Ф.Янушкевічу, Я.Паплаўскаму... Розніца паміж справай прыгаданых дзеячаў і Мінкультуры відавочная: калі першыя аднаўляюць, замацоўваюць і распрацоўваюць аўтэнтычную культуру, дык Міністэрства, увогуле спрыяючы ім, ці не большыя сродкі накіроўвае на забеспячэнне г.зв. «патрэб часу», імкнучыся дагадзіць усім, хто з'яўляецца на мясцовых маскультурных пляцоўках з мэтаю «абслугоўваць культурныя запатрабаванні народа». Яшчэ трэба ўзгадаць неабходнасць утрымання традыцыйнай сістэмы клубаў, бібліятэк, хораў, — бо за імі стаяць людзі, жывыя людзі, і іх многа... Так што прыватныя ініцыятывы рэалізуюцца самі па сабе, амаль незалежна ад дзяржавы. Аб'ектыўна, бачачы розніцу паміж зместам і кшталтам прыватных намаганняў у культуры і мерапрыемствамі ўстаноў культуры, трэба прызнаць іх эстэтычную несумяшчальнасць і рознаўзроўневасць. Сведчыць жа гэтая рознасць не пра што іншае, як пра пачатак адслаення пэўных плыняў культуры ад дзяржаўнага тулава; творчыя магчымасці для выбраных на гэтым шляху непрадбачаныя.

Гэтаксама наўрад ці створыць культуру формула «дзяржава робіць нацыю». Нацыя-то, магчыма, зарганізоўваецца і такім, дзяржаўным шляхам, але каб культура... гэты датклівы, бездапаможны і як нішто ўстойлівы, дасканалы эфір? Гэтая свяшчэнная эманацыя жывога свету (і твайго народа таксама) — ці можа яна стацца магчымай з волі дзяржавы, што наглядае за правільнасцю знешняга жыцця?

Ды не, відаць: на парозе культуры ўладарнасць дзяржавы блякне, канчаюцца яе ўсюдыісныя паўнамоцтвы; тут пачынаюць дзейнічаць іншыя, нябачныя звонку законы, вядзецца ўтоеная ад знешняга вока гульня, у выніку якой ажывае спракаветны фальклор, гучаць па-беларуску шэдэўры сусветнай літаратуры, ну і, вядома, пішуцца свае шэдэўры...

Што можа Дзяржава без Культуры? Хіба што, таячы сваю сутнасную бездапаможнасць, скарыстаць мову, думкі, эстэтыку суседшчыны? Аднак у такім разе дзяржава ператвараецца і ў культуртрэгера суседшчыны...

Калі слесар і прафесар кажуць адныя й тыя ж думкі, грамадства яшчэ няздольнае весці дыялог са знешнім светам, у яго няма каму гаварыць. Такое, аднамернае грамадства ўсім тулавам адкрыта знадворнаму свету, пазбаўлена абарончай лінзы, праз якую прапускаюцца прамені зводдаль, каб прадухіліць апёкі... Ролю такой грамадска-культурнай лінзы і мусіць выконваць нацыянальная эліта.

●

Пасля перакладу В.Сёмухам гесэўскай «Гульні шкляных перлаў» мы сапраўды не маем права паўтараць далей формулы Багушэвіча, Купалы, «НН». Прынамсі, мудрасць патрыярхаў ужо не можа задаволіць цалкам. Але да новых формулаў ляжыць шлях. Магчыма, яны яшчэ знаходзяцца ў чэраве культуры і іх немагчыма вымавіць сёння, бо формула — сцверджаная рацыя культуры, вынік шляху.

Паўтарыўшы ў 1989 годзе Купалу, мы як бы закальцавалі спіраль векавога развіцця культуры — прыйшлі да тае ж кропкі, ад якое ўсчаўся адлік адраджэнства на пачатку стагоддзя. Каб прывязацца да гэтае кропкі, трэба было абавязкова ўзнавіць колішнія формулы.

Акрамя таго, існаванне ў формулах мінуўшчыны два-тры гады таму было ці не адзінай спраўнай формай н а ц ы я н а л ь н а г а  і с н а в а н н я. Кажучы «Мова — душа народа», мы найперш прыдавалі сэнс сваёй уласнай мове, бо знаходзілі ў ёй надзейную светапоглядную каардынату, адносна якой вывяраліся крокі з савеччыны. Формулы патрыярхаў нас ніколі не падводзілі; у савеччыну нас вяртала грэбаванне тымі формуламі. Хто ў Беларусі робіць рыхтык аднолькавыя газеты? Ды тыя, хто не можа адарвацца ад марфалогіі маскоўскіх, колішніх «цэнтральных» выданняў, што доўгі час выстаўляліся ўзорам журналістыкі. Калі свае запазычаныя думкі адно перакладаюцца на беларускую мову, дык адкуль жа ўзяцца стылёвым адрозненням паміж большасцю матэрыялаў «Звязды» і, скажам, «Народнай газеты». Ці не з гэтых жа пёраў творыцца міф пра залежнасць Беларусі ад Масквы («як узаемазвязаныя сасуды: што ў іх, тое — са спазненнем — і ў нас»). Вядома, што вызначальная ў прыродзе згаданага міфу не логіка, не знешне-пераканальныя аргументы, а астаткавы рэфлекс асабістай духоўнай залежнасці аўтараў ад Масквы, ад думак маскоўскіх палітыкаў і публіцыстаў, ад суседняй культуры ў рэшце рэшт. І ўся іх беларушчына — перакладная, і яна такая і ёсць камяк — цытатаў Бярдзяева, Бабурына і Юры Шаўчука з «ДДТ» (каму хто даспадобы, той выкарыстоўваецца, цытуецца болей).

Рацыянальна процістаяць гэтаму камяку вельмі складана: ён таксама, як мы раней сказалі пра дзяржаву, усюдыісны. Застаецца бадай адзіны шлях — ладкаваць іншы, адрозны кшталт мовы, запазычанняў з суседшчыны...

Існуючы ў аўры Багушэвіча і Купалы, мы, аднак, існавалі і ў свеце няведамым — свеце будучыні. Надзённасць была (як і ёсць такою) для нас несапраўднай, неадпаведнай. Наш нацыянальны ідэал быў і ёсць вынесены за межы цяперішчыны.

А што цяпер?

Цяпер, відаць, уся справа ў хуткасці напрацоўкі новага лексісу культуры, які, набраўшы крытычнай масы, праз нейкі час можа ўздасца новымі формуламі, рацыямі, пытаннямі... Але сёння амаль усе формулы згубілі сугучнасць сітуацыі. Адпаведным і цэласным застаешся хіба толькі ты — той, хто можа казаць і без замацавання ў «радзе», у якім сплішчыліся твае папярэднікі. Такім чынам, ты пачынаеш у адзіночку. Спераду ў цябе — незрэалізаваныя пакуль магчымасці; ззаду — камяк неадэкватных памкненняў тваіх папярэднікаў. Каб скарыстаць свой шанц, ты павінен унікнуць камяку і пачаць з чыстага ліста.

Бачыш, як «усё проста»?

# МАЎЧАННЕ БЫЛО НАДТА ДОЎГАЕ...

**Наш карэспандэнт гутарыць з артысткай Акадэмічнага хору Дзяржтэлерадыё Беларусі Вольгай АЛЯКСЕЕНКАЙ, дачкой кампазітара Міколы РАВЕНСКАГА**

**— Вольга Мікалаеўна, на сакавіцкім календары ёсць асаблівая, *жалобная для* вашай сям'і дата.**

— Трэцяе сакавіка... Пазаўчора было 40 гадоў, як памёр бацька. Дзень ягонай смерці абвастрае думкі пра страшныя часы, скалечаныя людскія жыцці, лёс нашай сям'і. Мы ж доўга не ведалі гэтай даты. Не ведалі, што бацька памёр яшчэ ў 53-м, у Бельгіі, ад невылечнай хваробы, зусім самотны, бо якія там былі сябры — асобная размова... Але блізкія родзічы, і асабліва мама, ніколі не хавалі ад мяне праўду пра Міколу Равенскага, чыё імя зусім беспадстаўна, недарэчна трапіла ў спісы «ворагаў народа».

**— І трапіла надоўга. Нават сёння, калі «жалезная заслона» здавалася б, разбіта, пра яркі талент Равенскага на ягонай радзіме проста не ведаюць. У лепшым выпадку чулі пра яго як аўтара гімна «Магутны Божа». Публікацыя Д. Чаркасавай у «Голасе Радзімы» ды тэлеперадача пару гадоў таму — як выпадковы промнік святла ў цёмным царстве... Вольга Мікалаеўна, вы маглі б расказаць пра свайго бацьку?**

— Вам бы да маёй мамы звярнуцца, Яніны Станіславаўны: яна больш раскажа. Ды толькі хварэе зараз... Родам Равенскі быў з Бярэзінскага раёна, там і цяпер у вёсцы Капланцы жывуць дзве мае цёткі. Быў надзвычай адораны музычна, і як усе таленавітыя людзі, слухаў музыку прыроды, ад яе сілкаваўся. Выдатна граў на скрыпцы. У Мінску скончыў рэгенцкія курсы, і як таленавітаму музыку яму зрабілі бясцэнны падарунак — скрыпку (з якой ён не расставаўся да самай смерці) і накіравалі вучыцца ў Маскву. Маскоўскую кансерваторыю ён скончыў у Іпалітава-Іванава. Пасля смерці бацькі скрыпка прапала. Не думаю, каб землякі, якія кантактавалі з ім у Бельгіі, не ведалі, хто «пазычыў» тую рэліквію...

Да вайны бацька меў нямала прыяцеляў у асяроддзі творчай інтэлігенцыі, але самым лепшым сябрам быў Кузьма Чорны. Маці памятае гэтага надзвычай тонкага, далікатнага, высокай культуры чалавека і выдатнага літаратара. Яна часта згадвае апошнюю часіну жыцця пісьменніка, закатаванага ў «родным» канцлагеры. Пасля жудасных дазнанняў і катаванняў яго адпусцілі на волю. «Янка, — гаварыў ён маме, — каб ты ведала, якія гэта каты!» І расказваў такія жахі, што ягоная смерць неўзабаве пасля «вызвалення» з засценкаў выглядала, даруйце, заканамернай.

У бацькі быў брат Антон. Вельмі адукаваны чалавек, настаўнік, меў багацейшую бібліятэку — з кнігамі ці не ад часоў Івана Жахлівага. Як і многія з тагачасных беларускіх інтэлігентаў ён быў названы «ворагам народа» і расстраляны. Цяпер вядома, што ў Курапатах загінуў. Калі Антона забіралі, старадаўнія кнігі па-варварску знішчылі, стапталі, парвалі. Як брат «ворага», М. Равенскі адразу ж адчуў рэпрэсіі на сабе, мала таго: ён пісаў песні на вершы «нацдэмаў» — паэтаў цудоўных, але «няўгодных» для ўлады. Моцным ударам быў арышт зборніка песень на вершы беларускіх паэтаў, выдадзены ў 1922 г., зніштажэнне оперы «Браніслава», якую Равенскі стварыў разам з паэтам У. Дубоўкам. Бацьку забаранілі выкладаць у кансерваторыі, выключылі з Саюза кампазітараў, пазбавілі яго ўсякай магчымасці працаваць, і зразумела, што было б далей. Але заклапочаны тым, як пракарміць сям'ю, ён з'ехаў у Чэрвень, уладкаваўся там рэгентам у царкву.

**— Служыў Богу ды Музыцы — і больш нікому... Можа, пасля выгнання немцаў яму нічога і не пагражала б?**

— Сёй-той казаў, што Рэвенскага ніхто пасля вайны не чапаў бы: абсалютна чысты быў чалавек, па-за палітыкай. Мала таго: мая зводная сястра Лена, старэйшая дачка Равенскага (першая жонка памерла, мая маці — другая жонка М. Равенскага) была ў групе падпольшчыкаў, паплечніцаю героя Казінца. І гэта, як гаварылі, магло спрыяльна паўплываць на лёс бацькі. Але паводле іншай, і я думаю, зусім слушнай версіі з М. Равенскім бы проста расправіліся, што не паспелі зрабіць да вайны.

На эміграцыі ён разам з іншымі жыў у лагеры для перамешчаных асоб, потым атабарыўся ў Лювене, прыняўшы прапанову працаваць у тамтэйшым універсітэце. Стварыў вядомы студэнцкі хор, меў многа вучняў, шмат пісаў музыкі; расказваюць, ягоны талент проста эксплуатавалі розныя няздары з ліку сваіх жа... І скрыпкаю потым, як я казала, хтось таксама «пакарыстаўся», не разумеючы, што гэта не толькі бясцэнная рэліквія для сям'і, але і культурны скарб усёй беларускай нацыі...

**— Вольга Мікалаеўна, трагічны лёс бацькі быў для вас не адцягненаю з'явай...**

— Сям'я Равенскага апынулася ў становішчы сем'яў «ворагаў народа». Гэта ва ўсім адчувалася аж да нядаўняга часу. Вось лёс маёй маці. Выйшла замуж за Равенскага, маючы 16 гадкоў. Ёй прарочылі вялікую будучыню: мела выдатнае меццасапрана вельмі прыгожага тэмбру, параўнанае хіба што з голасам ейнай аднакурсніцы Веранікі Барысенкі. Скончыла толькі *І курс кансерваторыі — і ўсё... Пасля вайны* ўладкавалася на гарбарны завод. Цяжкая, знясільваючая праца падарвала здароўе. Маці нават пасаромелася сустрэцца з сяброўкай юнацтва В. Барысенкай, опернай «зоркай», якая так шукала Яніну... Але голас маці ведалі не толькі блізкія: усё навакolle збягалася паслухаць, калі яна пачынала спяваць.

Канечне ж, я ўяўляла сябе спявачкай, бо мела яркі голас — не палічыце нясціпласцю, але што было, тое было... На жаль, дзверы кансерваторыі аказаліся для мяне зачыненымі. Ды што там кансерваторыя! Помню, маладзенькай дзяўчынкай я пазнаёмілася з хлопцам-курсантам і той запрасіў *на вечар танцаў, а мяне проста* не пусцілі ў тое вучылішча, як дачку «ворага». «Не тая» біяграфія замінала часцяком...

**— І пеўчай кар'еры, так?**

— Ніякавата, але раскажу... Наш хор быў з гастролямі ў Маскве, і я зайшла ў інстытут імя Гнесіных, праспявала арыю Тоскі. Педагогі раілі-пераконвалі дзе заўгодна здабыць даведку пра тое, што я, маўляў, працую *салісткай, і тады мяне змогуць пры*няць вучыцца без аніякіх. Ну хто б даў мне такую даведку! Вось так і жыццё прайшло...

**— Позна, ды ўсё ж хоць нешта мяняецца. Скончылася замоўчванне імя Равенскага. Вы атрымалі ўжо нямала інфармацыі пра яго. Вяртаецца ў наш духоўны ўжытак галоўнае: музыка.**

— Усё гэта нялёгка даецца... У 1971, здаецца, годзе мая стрыечная сястра, дачка Антона Равенскага, атрымала ліст з Англіі ад далёкай радні — цёткі Тані, якая ў нейкай газеце напаткала знаёмае імя. Завуць маю сястру Ніна Равінская — яна салістка тэатра музкамедыі, у гэтай якасці пра яе і пісалі. Цётка пыталася ў яе пра лёс дзяцей Міколы. Так мы даведаліся і пра бацьку. Я наладзіла перапіску, і шмат чаго мне цётка Таня расказала. Дарэчы, яна таксама была чалавекам адметным. Доктарка, мела двух сыноў і горача любімага мужа. Муж трапіў у нямецкі палон, яе напалохалі немінучымі рэпрэсіямі як да жонкі «ворага», і разам з дзецьмі яна з'ехала. Пакутавала ў лагеры для перамешчаных асоб; перавучвалася на медыка — савецкі дыплом у Англіі не меў ніякага сэнсу. Вывела ў людзі сыноў, нярблага жыла да скону... Але вось трагічны паварот. Муж вызваліўся з палону, вярнуўся дадому... Таццяна, дазнаўшыся пра мужа, парывалася вярнуцца на Беларусь, але самі разумееце... Мне ж у свой час не дазволілі нават з'ездзіць да яе ў адведкі.



Мікола РАВЕНСКІ.

Цяпер кола маіх замежных сувязяў пашырэла. Дый тут з'явіліся людзі, якія шчыра хочуць аднавіць у беларускай культуры імя М. Равенскага. Цяжка гэта. Хоць бы таму, што ў вайну згарэў дом Равенскага з усімі дакументамі, фатаграфіямі. Праўда, здараюцца радасныя нечаканасці. У Васіля Віткі, напрыклад, захаваўся той самы песенны зборнік 22-га года, праз Д. Ц. Чаркасаву я даведалася пра гэта і вельмі, вельмі ўдзячная пісьменніку. З'явіліся ў мяне рэдкія нотныя матэрыялы, з якіх відаць, што шэраг прыгожых беларускіх песень, створаных М. Равенскім, М. Куліковічам-Шчагловым, сёння існуюць пад іншымі вядомымі ў нас прозвішчамі. Маю рукапіс Літургіі для *мужчынскага хору*, які з прыемнасцю прапаную Кірыле Насаеву, кіраўніку «Уніі», чый нядаўні канцэрт уразіў мяне як мастацкае адкрыццё. Дарэчы, для мяне было ўзрушэннем пачуць калектыў Гродзенскай гарадской капэлы, які запісаў гімн «Магутны Божа», перакладзены для хору і аркестра А. Бандарэнкам. Менавіта гэтак гучаў ён у маім уяўленні.

А мара ў мяне ведаеце, якая? Вярнуць у Мінск усе творы Равенскага, хоць бы ў копіях, з Лонданскай бібліятэкі імя Скарыны. Саматугам гэтага, вядома, не зрабіць, дый не кожны зразумеў бы маю руплівасць, імкненне адрадзіць імя бацькі, ачысціць яго ад бруднай палітычнай хлусні. Гэта ж самы дарагі для мяне чалавек, якога я не бачыла, але любіла заўсёды, з маленства.

**— Мне давялося слухаць лічаныя творы Равенскага, а ўжо дастаткова, каб зразумець, што гэта не музейная каштоўнасць, а жывая музыка, без якой нібы нешта пакрадзена ў нашай культуры.**

— Мама, калі бяссонніца, «ловіць» розныя радыёстанцыі. Неяк паслухала з Амерыкі цэлы выдатны канцэрт духоўнай музыкі Міколы Равенскага. Вельмі расхвалявалася, а побач не было нікога, хто падзяліў бы ейныя пачуцці. Назаўтра мне расказвала — і я расстроілася.

**— Прабачце, Вольга Мікалаеўна, што і я сваімі пытаннямі вас растрывожыла...**

— Ды я ўжо крыху «загартавалася», шмат даводзіцца апошнім часам пра ўсё гэта гаварыць.

**— Бо надта доўга давялося маўчаць... Дзякуй вам за гутарку. Будзем слухаць 6 сакавіка па радыё першы мемарыяльны канцэрт з твораў Міколы Равенскага.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

АНОНС

## У Доме літаратара...

**Сёння, 5 сакавіка, адбудзецца вечарына «Паэзія, Жанчына і Вясна».**

**Вечар, прысвечаны 90-годдзю з дня нараджэння Т. Кляшторнага — «Ходзім мы пад месяцам высокім...», пройдзе 11 сакавіка.**

**12 сакавіка — творчы вечар паэта-байкапісца Э. Валасевіча.**

**Дакументальны фільм «Падарожжа ў краіну Insitis» (вытворчасць РВТА «Белвідэацэнтр», аўтар сцэнарыя В. Лабачэўская, рэжысёр-аператар У. Тамашэўскі) будзе паказаны 16 сакавіка. 17 сакавіка — юбілейны вечар, прысвечаны 95-годдзю з дня нараджэння яўрэйскага паэта І. Харыка.**

**Акадэмія, прысвечаная 75-й гадавіне Беларускай Народнай Рэспублікі, збірае ўсіх жадаючых 19 сакавіка.**

**Спектакль паводле аповесці У. Караткевіча «Сівая легенда» ў пастаноўцы народнага тэатра чытальнікаў «Жывое слова» можна паглядзець 23 сакавіка.**

**30 сакавіка — прэм'ера кнігі Р. Баравіковай «Люстэрка для самотнай».**

**31 сакавіка — вечарына часопіса «Маладосць» з нагоды 40-годдзя.**

**Усе гэтыя мерапрыемствы пачынаюцца а 18-ай гадзіне, Акадэмія — а 17-ай. 9 сакавіка а 10-ай гадзіне секцыя перакладу праводзіць свае пасяджэнне ў Інстытуце замежных моў. Секцыя паэзіі збіраецца 18 сакавіка а 15-ай гадзіне. У гэты ж час 23 сакавіка — сумеснае пасяджэнне творчых секцый «Маладая крытыка і літаратуразнаўчы працэс», 24 сакавіка — сустрэча са школьнікамі, 25 сакавіка — пасяджэнне секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва «Проза на старонках дзіцячых выданняў.**

УВАГА

## Просім дапамогі

**Летась пры Рагачоўскім гарадскім аддзеле адукацыі ўтвораны Краязнаўчы цэнтр, задачамі якога з'яўляецца далучэнне навучэнцаў да вывучэння гісторыі і культуры роднага краю, прапаганда культуры, гісторыі, народных традыцый. У цэнтры працуюць археалагічны, этнаграфічны, літаратурна-краязнаўчы гурткі, гурток геаграфічнага краязнаўства, атрад разведчыкаў ваеннай справы, некальні турысцкіх секцый, фальклорны тэатр, гурток народных промыслаў.**

**Аднак нам не хапае навуковай, навукова-метадычнай, краязнаўчай літаратуры. Таму звяртаемся да ўсіх, хто піша пра Беларусь, хто папулярызуе гісторыю нашай дзяржавы, а таксама да тых, хто мае такую літаратуру, дапамагчы ў камплектаванні краязнаўчай бібліятэкі. Чакаем кніг па адрасу: 247250, Гомельская вобласць, г. Рагачоў, вул. Леніна, 50, Краязнаўчы цэнтр.**

**А. ЛЕЙКІН,**
**намеснік дырэктара Рагачоўскага краязнаўчага цэнтра.**


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-25-25; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Юрась ЗАЛОСКА — 33-19-85; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.



Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.



Нумар падпісаны ў друк 4.3.93 у 18.10



Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (адказны сакратар), Юрась СВІРКА.



Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 15.000 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12